

**ЧЫТАЧАМ, ЯКІЯ СВЯТКУЮЦЬ КАТАЛІЦКІЯ КАЛЯДЫ, ЖАДАЕМ ВЯСЁЛЫХ, СЯМЕЙНЫХ, ЗДАРОВЫХ СВЯТАЎ!**


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 51 (3319) Год LXIV | Беласток, 22 снежня 2019 г. | Цана 4,00 зл. (у тым VAT 5%)


**Як для мяне, то гэты фільм мае адзін недахоп! Ой, як вам сказаць? Ён.... ён за кароткі... — заяўляе Зінаіда Семянюк з Белавежы. — Я б яшчэ гадзіну сядзела, глядзела і ўсё перажывала. Маладыя гады явіліся перад вачыма. Усё прыгадалася. І каб цяпер хто вальс ці польку зайграў, то закруцілася б як вецер у танцы. Не хапае сёння той лёгкасці і годнасці ў нашых танцах...**



■ Мікола Ваўранюк

# Канцэрт жыцця ў Белавежы

— Фільм закароткі, — быццам у адзін такт, паўтарае Ніна Бонда. — Трэба, каб ён тры гадзіны, як канцэрт на Радыё Рацыя, ішоў... То мы б сядзелі, смяяліся і плакалі б усе. Бо там наша жыццё. Мы так выхоўваліся, так жылі.

— Так, так, — пагаджаецца Марыя Руско. — Усё, што ў фільме, нам дарагое. І я шчаслівая, што сёння прыйшла на паказ. Бо тое ўсё, што ўспамінаюць героі фільма, гэта расказ пра нас саміх. Тут цэлы наш свет, наша радасць і гора...

Гарачыя, натхнёныя словы запісваю ў Белавежскім доме культуры адразу пасля прэзентацыі фільма «Канцэрт жыцця». Рэжысёр, Коля Ваўранюк, прымае заслужаныя паклоны. Яго шчыльна акружылі белавежанкі, частуюць духмянай бульбяной бабкай і прaвяць прыгожыя кампліменты. І нават здаецца, што сёння не аўторак, а субота, што дзесь з высі гучыць канцэрт пажадання на Радыё Рацыя. Бо фільм не толькі перадае яго добрую атмасферу, але дапамагае зразумець наколькі каштоўны і патрэбны для нас музычна-грамадскі праект Радыё Рацыі.

* * *

— Я сам, пакуль не пабачыў гэтага фільма, не ведаў, што канцэрт такі папулярны, — прызнаецца Марк Зубрыцкі, дырэктар Белавежскага асяродка культуры. — Праўда, мае бацькі кожную суботу выседжваюць ля радыёпрыёмніка. Ну, але я не думаў што перадача мае столькі слухачоў! Такіх верных, шчырых беларусаў. Рэжысёр гэта прыкмеціў і падумаў, каб нешта зрабіць з такой з'явай. Запісаць яе. Фільм атрымаўся вельмі цікавы. Глядзець як людзі чакаюць нашых песень — чыстая радасць. Гэта натхненне для штодзённай працы...

Марк Зубрыцкі — музычны інструктар. Нядаўна яго «Ручаёк» святкаваў дзесяцігоддзе.

— Як пачалі працаваць з дзеткамі, то бацькі прыйшлі і спыталі: «Ці можаце і з намі працаваць?» Я пагадзіўся. Не мог адмовіць такой прапанове. Сёння ў «Ручайку» спяваюць ужо асобы, якія пачыналі ў дзіцячым калектыве...

Мой субяседнік у час дэманстрацыі фільма прыдумаў ідэю:

— Каб запрасіць тэлебачанне і запісаць усё, што адбываецца ў час нашых рэпетыцый. Каб людзі пабачылі, як мы спяваем, пра што размаўляем, якія ў нас беларускія гаворкі.

І дадае:

— Часы памяняліся. У Белавежы ўжо па-іншаму глядзяць на беларускую культуру. А калі мы ладзім канцэрты з цыкла «Рознагалоссе», прыходзяць турысты. Ім гэта вельмі цікава, арыгінальна. Беларуская культура ажыўляе наш пушчанскі свет.

* * *

У фільме «Канцэрт жыцця» арыгінальна зафіксаваны пушчанскі свет на прыкладзе сямейных кланаў з вёсак Тапіла і Старына.

— Я то цешуся, што я сёння разам з вамі, — кажа Валодзя Дудзіч (сам родам з Локніцы), — бо пабачыў многіх знаёмых. Таго лістаноша Ярослава Бялькевіча з Чыжоў і тую ўсю кампанію з Тапіла. Мы, белавежскія сеніёры, сустракаемся разам.

— А я ўрэшце пабачыла на свае вочы Янку Трафімюка, — ажыўляецца Зінаіда Семянюк. — Ён кожную суботу перадае віншаванні для нашай Ніны Бонды. І там і сваячка мая выступала. Валя Мядзведзь яна называецца. З Тэрэмісак. Яна піша беларускія вершы. Ведаеце яе?

— Янэк Трафімюк — сын маёй сястры, — тлумачыць ужо мне Ніна Бонда. — Ён таксама хрысціў маю дачку, і мы яшчэ кумы. Яго пажаданні заўсёды мяне цешаць і я шчаслівая, што ён пра мяне памятае. Нават калі сама не слухаю, то на другі дзень людзі перакажуць: *О! Учора цябе Янак віншаваў!* І скажуць яшчэ, якую песню паставілі.

— А ў вас прозвішча як у аўтаркі дэтэктываў? — цягну сямейную нотку.

Але спадарыня Бонда адразу пярэчыць:

— Гэта выпадковае супадзенне. Я сама родам з Новага Корніна. У Белавежу прыйшла ў 1965 годзе. Тут прыжылася, навучылася гаварыць па-белавежску. А як, бывала, прыедуць мае сваякі і мы станем размаўляць па-свойму, а цесць смяецца і кажа: *О-го! Французы наехалі ў Белавежу!*

Зінаіда Семенюк таксама праз замужжа папала ў Белавежу з Дубяжына. Пазнаёміліся на вяселлі. Ёй было 18 гадоў, калі пайшла пад вянец.

— Мы тры разы пабачыліся і ўжо пажаніліся, — успамінае. — Цяпер то дзяўчаты разумныя, не спяшаюцца замуж. А я кінула школу і паляцела за ім у Белавежу.

— А як вы гаварылі з сабой? — пытаю,

— Спачатку то мы гаварылі як гаварылі. Ён па-свойму, я па-дубяжынску. І так дамаўляліся. А як пасля года ад замужжа я прынесла сына на руках з *асяродка здароўя*, то мусіла ўжо гаварыць па-белавежску. Ну, тут мяне б *матаніхай* празывалі, а сынка *матаном*! То ж... мусіла навучыцца па-іхняму. Але ведаеце, — прыгожа ўсміхаецца мая субяседніца, — усё гэта — старыя справы. Цяпер я асталася адна, добра што нікому хоць не замінаю... Ага, раз дазванілася да Радыё Рацыя. Гавару і словы пагрузлі ў горле, моцнае хваляванне ўзяло. Я ўжо нідзе не пайду. Сяду ў хаце і слухаю сабе. Нідзе мне не трэба ісці. А сягоння мяне прывяло. Ой, які гэта файны фільм! Усю ноч буду пра яго думаць. Дай Божа таму рэжысёру здароўечка. Ну, каб далейшую частку зрабіў...

* * *

— Хоць мы не выступаем у фільме, ён пра нас усіх, — кажа Ірына Байко, старшыня белавежскіх сеніёраў. — Мы гуляем пры такой музыцы на сваіх патанцоўках, і нам вельмі добра. Я шчаслівая, што сёння былі разам дзеткі з калектыву «Сунічкі». Гэта сімвалічнае спалучэнне пакаленняў. Яны будуць перадаваць нашы песні далей, і мы будзем весялей жыць і цешыцца сваім жыццём...

Тое, што фільм завандраваў у Белавежу, вынік школьнага праекта «Беларускія вячоркі», якія ладзяць дом культуры і школа. Разам з вучнямі сустракаю настаўніцу беларускай мовы Ангеліну Масальскую.

— Фільм цудоўны! — заяўляе спадарыня Ангеліна. — Я глядзела і думала ўвесь час пра свайго бацьку. Ён такі фанат як героі гэтага фільма, ніколі не прапусціць канцэрта. Добра, што фільм паўстаў, бо гэтыя людзі перадаюць нам народную мудрасць. Песня заўсёды была важнай у беларускай хаце. Я сама памятаю, як прыходзіла мая цёця і яны разам з дзедам адразу пачыналі спяваць. Цёця спявала ў царкоўным і народным харах, ведала ўсе песні. Але я найбольш запамятала *Ой, чый то конь бяжыць...* І зараз, калі чую яе, сэрца мацней б'ецца, думаю пра родных. Праўда, цяпер традыцыя сямейнага спеву ўжо знікае. Маладыя спяваюць інакш. У іх іншы, больш эстрадны, падыход. Але ім падабаўся гэты фільм. Думаю, яны добра зразумелі паказ. А мне, калі можна, — усміхаецца настаўніца, — вельмі падабаліся камічныя моманты. І я згодна з усімі. Спадар Ваўранюк павінен зрабіць працяг гэтага фільма!

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**





# Перадгнавагоднія несур'ёзныя развагі

Глядзім на каляндар і паверыць не можам. Заканчваецца чарговы год. І прайшоў ён яшчэ хутчэй, чым папярэдні. А той папярэдні, праляцеў хутчэй за той, што быў перад ім... І так кожны раз. Раней, у дзяцінстве, нешта падобнае мы чулі ад бацькоў і дзядоў, зараз дзеці і ўнукі чуюць гэта ад нас. Для іх, пакуль што, хада часу з рознай хуткасцю ў залежнасці ад узроставага ўспрымання — з'ява незразумелая. Зрэшты, як і для навукі. Чалавецтва пакуль яшчэ не даследавала належным чынам гэтай з'явы. А дарма.

Першым звярнуў увагу на розную хаду часу вялікі навуковец Альберт Эйнштэйн. Гэта ён прадказаў задоўга да мажлівасці праверыць эксперыментальна, што час у Космасе ідзе з іншай хуткасцю, чым на Зямлі. Пасля эксперыменты гэта пацвердзілі. А вось тое, што час і на Зямлі ідзе з рознай хуткасцю для розных людзей, чалавецтва заўважыла задоўга не толькі да нараджэння Эйнштэйна, але, хіба што, і задоўга да нараджэння самой навукі.

Зрэшты, разважаць пра час людзям не хапае часу. Мітусня забірае час. Ну а тое, што жыццё, гэта мітусня мітусні і іншая мітусня, можна пачытаць у Бібліі. Акурат напрыканцы года пачытаць гэтую Кнігу цягне больш, чым калі. Але ж мітусня... За ёй няма калі чытаць. Дзе ўзяць той час, які ляціць усё хутчэй і хутчэй...

Можа таму на канец года і выпадае так шмат свят, каб за вясельным сталом, ля каляднай ялінкі, падчас дарэння падарункаў ды прыгатавання святочных страў не лезлі ў галаву тыя думкі пра непазбежнасць паскарэння хады часу з пройдзеным часам... Ну калі гэта так, то нам, беларусам, лёс не дае мажлівасці пагараваць у канцы года пра наш лёс з-за колькасці тых свят. Мяркуйце самі. Каляды святкуем два разы. І разам з суседзямі і ўсім светам, і свае, ужо без суседзяў і ўсяго свету. Лёс наш беларускі такі. Мы іхныя святкуем, а яны нашы — не. Нават Новы год святкуем два разы. Новы год, і Стары новы год. А набор слоў які, „стары новы год". Вось так, і новы, і стары ў адным флаконе. Парадокс, але факт. Як з тым часам, што ляціць неаднолькава для ўсіх...

Дарэчы, толькі з часам пачынаеш заўважаць, як шмат у нас свят напрыканцы года. У асноўным па гарэлцы заўважаеш. Яна тут найлепшым індыкатарам праяўляецца, бо арганізм ужо гарэлкі не прымае — знасіўся, у тым ліку і ад гарэлкі, а яе ўсё намагаюцца ўліць у чалавека як мага больш. Бо свята! А яно адно за другім. І Каляды, і Новы год, і Стары новы год... І паспрабуй толькі адмовіцца! Аніякія аргументы не прымаюцца другім бокам. Ні спасылкі на здароўе, ні нават забарона доктара, ні патрэба рана ўставаць назаўтра, ні завярэнні, што стаў цвярэзнікам і больш не ўжываеш ні кроплі... Нічога не дапамагае, акрамя аднаго. Ёсць адзін аргумент, які ахалоджвае пыл тых, хто запрашае выпіць. Гэта, калі вы скажаце, што вырашылі датрымаць пост ад пачатку і да канца. Ну могуць нясмела тады вам сказаць, што пост у дарозе аблягчаецца, што ёсць праўдай, або, што можна нейкі дзень адпасціць пазней, што таксама дапускаецца, але моцна настойваць ужо ніхто не будзе. Не любяць нашы людзі перашкаджаць Святой справе. Але ж спасылка на пост дзейнічае толькі да Каляд. А там ужо ад праваслаўных Каляд да Старога навага года ніякіх апраўданняў не знойдзеш. Адзінае выйсце, не паказвацца іншым на вочы. Яны тады па цябе забываюцца і не шукаюць. Ага, будуць яны губляць на пошукі такі дарагі час, які і так ляціць усё хутчэй... Ды толькі сам не вытрымаеш. Сам выпаўзеш людзям на вочы. А яны і радыя.

А вось пасля Новага года развагі пра час больш так моцна не турбуюць. Бо на сцяне ўжо вісіць новы каляндар, а там напісана, што ўвесь год наперадзе. Доўгі такі год, у трыста шэсцьдзясят пяць дзён. Ці яшчэ даўжэйшы, як гэты, надыходзячы 2020-ы, высакосны, ажно ў трыста шэсцьдзясят шэсць дзён.

І гэта ўжо цікава. Ужо ніхто не зможа ў канцы 2020 года, як зараз, сказаць, што год прайшоў хутчэй, чым папярэдні, бо гэта не будзе адпавядаць рэчаіснасці. Таму можна сказаць з пэўнай доляй упэўненасці, што невядома, якім ён будзе той новы 2020 год, лепшым, ці горшым, але з упэўненасцю можна заяўляць, што будзе даўжэйшым.

Ужо і добра! Ну і чым не прычына для радасці?!

**Віктар САЗОНАЎ**

# Тудэма-сюдэма

Спрэчка пра перавагу юліянскага календара над грыгарыянскім альбо наадварот сёння нікога не хвалюе. Нас больш злуюць навязаныя ў адміністрацыйным парадку змены часу: з летняга на зімовы і зноў з зімовага на летні. Хай бы таму лопнула дурная галава, хто гэта прыдумаў?! Што тычыцца каляндарных адрозненняў, мы ведаем, што варта ведаць. Кожны з іх як гадзіннік з зязюляй вымярае час, але не ў секундах, не ў гадзінах, а ў днях, тыднях і месяцах. Гадзіннік мае штодзённы маштаб, гадавы — каляндар. У абодвух выпадках час настолькі ж захоплены ў абароце паўтарэння, як і сезоны цыкла іх прыродных пераўтварэнняў. Мы таксама ведаем, што паміж адным і другім календаром адбываецца зрух у некалькі дзён, які, нягледзячы на значную розніцу ў датаванні, не з'яўляецца праблемай для кагосьці ў той час, калі рытм жыцця вымяраецца лічбавым імпульсам інтэрнэту і мабільных тэлефонаў. Тып календара таму маргінальны, наколькі ён не распаўсюджваецца на літургічныя меры, якія так важныя для праваслаўных і каталіцкіх цэркваў. Ва ўсякім разе тое ж самае тычыцца і магаметанскіх, іудзейскіх альбо будыйскіх цэркваў. Кожная рэлігія мае сваю літургічную меру, заснаваную на сваёй гісторыі і традыцыі, і, нарэшце, культуры і цывілізацыі, якія атаясамліваюцца з ёю. З гэтай прычыны літургічны і свецкі календары звязаны асаблівым чынам. Нягледзячы на гэта, гэтак жа як мы адрозніваем верхні і ніжні крывяны ціск, неабходна адрозніваць літургічныя і свецкія меры — у апошнім выпадку дадаткова спярэшчаныя датамі свят, звязанымі з гісторыяй асобных краін. У гэтым выпадку каляндар таксама значна адрозніваецца ад календара. Іншы ў Германіі, інакшы ў Беларусі, у Польшчы. Калі людзі святкуюць у адной краіне, яны працуюць у іншай. Літургічныя святы, нават калі ў межах той жа дамінуючай рэлігіі, што і ў Польшчы і ў каталіцкай частцы Германіі, дакладна не супадаюць. Аб тым, што Беларусь і Расія, якія прытрымліваюцца юліянскай меры, не згадваю. Карацей кажучы, існуе шмат календароў альбо мер, з дапамогай якіх яны азначаюць час. З гэтага можна зрабіць выснову пра слабасць самой ідэі календара. Таму што, пра што можна сказаць шмат, быў гэта даволі груваткі інструмент. У асноўным з-за шырокіх адрозненняў у тым, калі пачынаецца новы год. Калі засяродзіць увагу толькі на хрысціянскай Еўропе, то замяшанне звязанае з ім ідзе ад Сярэднявечча, калі з адраджэннем рымскага права рымскі каляндар пачаў распаўсюджвацца, устанавіўшы дату 1 студзеня пачаткам каляндарнага года. У рэшце рэшт яго прынялі не адразу і толькі ў некаторых частках Еўропы. Нават лічыцца, што ў той час гэта былі самыя рэдкія спосабы вызначэння пачатку года. У многіх рэгіёнах Еўропы першы месяц года па-ранейшаму быў прызнаны гэтым перыядам, які традыцыйна быў звязаны з часам пакут і і ўваскрэсення Хрыста. У любым выпадку, датаванне гэтых падзей у той час было вельмі недакладным, што прывяло да дзіўных сітуацый. Асабліва для падарожнікаў і асабліва ў тагачаснай Італіі, культурна больш разнастайнай, чым сучасная Еўропа. І так, напрыклад, калі ў Венецыі пачатак года адзначаўся 1 сакавіка, то ў не так далёкай Пізе год лічыўся зыходзячы з меркаванай даты Дабравешчання, гэта значыць 25 сакавіка, але года, які папярэднічаў нашай эры. Таму што ў Фларэнцыі гады таксама разлічваліся з 25 сакавіка, але з першага года нашай эры. У іншым месцы год пачынаўся ад Каляд ці Вялікадня. У сувязі з гэтым замяшаннем распаўсюджваецца сярод гісторыкаў, якія займаюцца сярэднявеччам, такі анекдот. Анекдот, максімальна рэальны, які вынікае з простых разлікаў. У ім гаворыцца пра нейкага купца з Венецыі, які адправіўся ў вялікую камерцыйную вандроўку праз Фларэнцыю, Пізу, Праванс, потым Францыю. Першы дзень венецыянскага Новага года пачаўся 1 сакавіка 1245 года. Пасля некалькіх дзён знясільваючай паездкі ён прыбыў у Фларэнцыю, але па дзеючым там календары ён апынуўся там... годам раней. У Фларэнцыі быў яшчэ 1244 год. Наш падарожнік, які адпачываў некалькі дзён, адправіўся ў Пізу. Там, з-за іншага зваротнага адліку пачатку нашай эры, ён ужо быў у 1246 годзе. Падаўшыся далей на захад у бок Праванса, купец, неахвотна, вярнуўся ў 1245 год, і, хоцькі-няхоцькі, перайшоўшы межы Францыі перад Вялікаднем, што адбылося да 15 красавіка, ён зноў апынуўся ў 1244 годзе. Але калі ён прыбыў бы праз дзень, мог бы адзначыць 1245 год з жыхарамі Францыі, а там пачатак новага года адзначаўся ў Вялікдзень 16 красавіка. Ці ў 2020 годзе штосьці зменіцца?

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Каляндныя словы ўвесь год

Згодна каляндарнаму цыклу набліжаемся да канца 2019 года. Пішу менавіта пра каляндарны рухавік, а не прыродны. Бо тое, што дзеецца на двары, цяжка прыпісаць да традыцыйнага цыкла з падзелам на зіму, вясну, лета і восень. Калі глянем на апошнія гады, аказваецца, што з такой сітуацыяй маем дачыненне ўжо не першы ці другі год. У нас звычайна цеплалюбныя настроі, таму большасць маіх знаёмых не надта сумуе па траскучых маразах і гурбах снегу. Асабліва калі наша хуткае жыццё завязанае на сядзеннях не менш хуткіх машын. Колішняе зімовае надвор'е было б хіба катастрофай для цяперашніх жыхароў нашай часткі свету. Добрым бокам такой сітуацыі з'яўляецца тое, што менш грошай трацім на абаграванне дамоў, а ў хатніх складах застаецца больш назапашанага вугалю, дроў ці іншага паліва. Значыць, такім чынам менш дыму ўзлятае ў неба над намі, а мы дзякуючы таму будзем напэўна здаравейшымі. Сваёй дарогай, чым будзе можна паліць у нашых прыпушчанскіх вёсках і мястэчках за некалькі гадоў, цяжка адказаць. Ужо сёння жыхары лясных мясцовасцей маюць клопаты з набыццём драўніны ў сваіх надлясніцтвах. Прыходзіцца ехаць за дровамі і метрамі ў прыватныя лясы, калі неачышчаная пушча пачынае нагадваць моцна хворы арганізм, які пераўтвараецца не ў багацце, але ў сметніцу. Санітарная высечка аж просіцца. Ці тады хатнія кафляныя печкі абаграваныя перш за ўсё дровамі, радчэй вугалем будуць мець права на існаванне ў нашым краявідзе ў сувязі з кліматычнымі патрабаваннямі?

Зараз, калі павінны мець зімовы перыяд з белым снегам і марозным, сонечным днём, маем дачыненне са змрочнымі днямі, пазбаўленымі натуральнага святла. Усе вакол сноўдаюцца стомленымі, нежыццярадаснымі. Проста, вырысоўваецца вобраз чалавека быццам з крыжа знятага. Для чалавечага арганізму дэпрэсіўныя настроі растуць проста маланкава.Тады і не лішнім будзе гаварыць пра рост хвароб нервовай сістэмы. Мая знаёмая аптэкарка сказала мне, што цяпер проста як вада ідуць без рэцэптаў усялякія вынаходніцтвы на супакаенне арганізма. Зразумела, што жыццёвыя і працоўныя клопаты адыгрываюць тут сваю немалую ролю.

Такім жыццёвым дэпрэсантам з'яўляецца чалавечая самота. Асабліва яна адчувальная ў абязлюдзелых вёсках. Бывае так, што проста тыднямі няма каму наведаць адзінокіх людзей у самоце. Калі няма да каго адчыніць рота, то фрустрацыя безнадзейнасці пачынае іх дабіваць.

«Ад аглядання толькі тэлевізара людзі дурнеюць», — любіць паўтараць мой бацька, якому пачуццё адміранне роднай вёскі за кожным маім прыездам прыносіць балючыя эмоцыі. Людзі, якія на сваіх плячах неслі гістарычныя ці эканамічныя цяжары, становяцца бездапаможнымі перад чарговым годам часу забыцця. У іхнія дзверы і вокны не стукаюць ужо суседзі, толькі алені, зубры ці дзікі ўжо без аніякай боязі падыходзяць пад дзверы хат.

У маім пушчанскім выпадку здаецца, што апошнія мясцовыя людзі апынуліся ў своеасаблівым манастыры з найбольш суровымі манаскімі правіламі. Пушчанскі манастыр са штодзённай малітвай сваіх сыноў і дочак заносіць Богу просьбу пра памілаванне і надзею. І яны гэтую малітву вымаўляюць у поўнай пакорлівасці і бязмежнай веры ў справядлівасць Усявышняга. Толькі на яго і сваіх дзяцей засталося ў іх спадзявацца, на іх наведванне ці прынамсі як найчасцейшае тэлефанаванне. Непатрэбныя нашым бацькам і дзядулям вытанчаныя падарункі пад ёлку. Не яны з'яўляюцца тым выяўленнем нашай павагі да іхняга зямнога вандравання. Слова і размова — найлепшая, святочная падзяка прынесеная намі. Трэба нам спяшацца з такімі святочнымі падарункамі, каб папросту не было запозна. А праспяваныя супольна калядкі будуць лунаць над намі круглы год. «Дай Божа дажыць да Каляд у наступным годзе», — будзем гаварыць гэтае пажаданне за калядным сталом. Дажыць, але не ў чарговым годзе самоты і маўчання.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Я адчуваю адказнасць за будучыню беларусаў

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Так вырашыла жыццё. Першая мая прафесія — бухгалтарка, але я не ўяўляла сябе ў бюро. Мне хацелася вучыцца і я рашыла паступіць ва ўніверсітэт. Праз нейкі час, пасля заканчэння навукі, я не працавала. Пасля стала настаўніцай беларускай мовы і зараз, пасля многіх гадоў, магу сказаць, што вельмі люблю сваю працу, сваіх вучняў, сваю школу.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Я бачу многа настаўнікаў беларускай мовы, якія працуюць у карысць роднага. Першай асобай, з якой мне прыйшлося сутыкнуцца на пачатку маёй настаўніцкай практыкі, была спадарыня Тамара Русачык. Яе актыўнасць, ангажаванасць, вопыт былі для мяне штуршком для развіцця на ніве беларускасці. Другой асобай была і ёсць Наталля Герасімюк (хаця яна не настаўніца). Яе вынаходлівасць і любоў да беларускай культуры дапамаглі мне адкрыць духовы і матэрыяльны свет беларусаў.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Перш-наперш супрацоўнічаю са сваёй сяброўкай са школы Беатай Кендысь. Цаню супрацоўніцтва з Валянцінай Андрасюк, Аннай Франкоўскай і іншымі настаўнікамі. Люблю быць удзельнікам метадычных канферэнцый, майстар-класаў, якія ладзіць метадыст Іаланта Грыгарук. Гэта добрая нагода сустрэцца з настаўнікамі з іншых школ, абмяняцца дапаможнікамі, кніжкамі, вопытам, пагутарыць аб праблемах. Цікавай была паездка ў верасні на курсы ў Мінск, арганізаваныя для настаўнікаў беларускай мовы Падляшскага ваяводства. Там мы пазнаёміліся з асобамі, якія цэлым сэрцам адказныя за развіццё і існаванне беларускай мовы.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Супрацоўнічаю з „Нівай", кожны год мае вучні прымаюць удзел у Сустрэчах «Зоркі». Таксама ўдзельнічаем у конкурсах „Роднае слова" і „Пазнай Беларусь", якія ладзіць БГКТ. Супрацоўнічаем з Музеем беларускай культуры ў Гайнаўцы, штогод нашы вучні выступаюць на „Мастацкіх сустрэчах" з песнямі, інсцэніроўкамі. Музей ладзіць таксама для таленавітых дзяцей мастацкі конкурс „Я нарадзіўся тут". Супрацоўнічаю з белліцэем, удзельнічаем у „Беларускай гавэндзе", канцэртах. Супрацоўнічаем таксама з Асяродкам адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, дзе адбываюцца сустрэчы з пісьменнікамі, журналістамі, дзеячамі культуры, з Фондам „Яны гэта Мы" Наталлі Герасімюк і АБ-БАй.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У нашай школе ад студзеня 2020 года будзе працаваць трансгранічны праект „Беларускае вяселле памежжа". У праекце прымае ўдзел школа ў Дубінах, Фонд „Паштоўка" і наша школа.



**Людміла ГРЫГАРУК** нарадзілася ў вёсцы Кназазы на Бельшчыне. Закончыла Эканамічны ліцэй у Бельску-Падляшскім, пасля паступіла ў Варшаўскі ўніверсітэт, дзе закончыла беларускаю і рускую філалогіі. Працуе ў Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Сярод шматлікіх конкурсаў, у якіх прымаюць удзел мае вучні, самым любімым для мяне з'яўляецца прадметны конкурс беларускай мовы. Каб дасягнуць поспех, трэба паглыбіць веды па літаратуры і граматыцы. Гэта патрабуе ад вучня і настаўніка сістэматычнай навукі і сумленнай працы. Таксама люблю рыхтаваць вучняў да іншых конкурсаў. Усе яны спрыяюць раскрыць таленты вучняў.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Я заўсёды магла і магу разлічваць на дапамогу бацькоў. Бацькі вельмі актыўна ўключаюцца ў арганізацыю школьных мерапрыемстваў.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Мне не падабаюцца гэтыя законы, што вучань можа запісацца і выпісацца пасля году навучання. Яшчэ ў верасні бацькі могуць скласці дэкларацыю, што дзіця не будзе хадзіць на ўрокі беларускай мовы. Такая сістэма дээарганізуе працэс навучання беларускай мовы. Як настаўніца я ўвесь час заахвочваю дзяцей хадзіць на ўрокі, вучу пашаны для мовы, культуры, традыцыі прошлых пакаленняў. Веру, што прыйдзе час і будуць лепшыя законы для вывучэння беларускай мовы.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны хапае на рэалізацыю праграмы. Я стараюся так запланаваць урокі, каб як найбольш ведаў перадаць вучням. Падрыхтоўка да прадметнага конкурсу заўсёды адбываецца на пазаўрочных занятках, часам працую нават да вечара. З іншымі падрыхтоўкамі, напр. да выступленняў, таксама рыхтуемся пасля ўрокаў. У рамках урокаў мясцовай гісторыі і культуры мы ладзім вельмі многа экскурсій па суботах. Хачу паказаць вучням найперш Гайнаўшчыну. Мы ўжо наведалі такія мясцовасці як Дубічы-Царкоўныя, Барысаўка, Старое Ляўкова, Нарву, Шчыты, выпякалі „буславу лапу", ездзілі ў манастыры ў Сакі, Залешаны, дзе пачулі пра трагедыю 1946 года. Два разы ў год вучні выязджаюць у Беларусь, мы ўжо наведалі Брэст, Камянец, Каменюкі, Пружаны, Ружаны і другія мясціны. Такія паездкі вельмі падабаюцца вучням.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Кожны год я рыхтую вучняў да прадметнага конкурсу. Адказным падыходам і цяжкай працай мае вучні дабіваюцца поспехаў. У мяне кожны год ёсць лаўрэаты і фіналісты. Я ніколі не лічыла, але думаю што іх каля сарака.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Падручнікі па беларускай мове састарэлыя, недапасаваныя да сучаснасці. Настаўнік можа карыстацца рознымі дапаможнікамі з інтэрнэту. На ўроках чытаем „Ніву", „Зорку". Апошнім часам нам спадабаўся цыкл „Міфы старажытных беларусаў".

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Чакаю выдання «Лемантара» для другога класа. Ён мне найбольш падабаецца.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Маімі любімымі пісьменнікамі ад заўсёды ёсць Якуб Колас і Максім Багдановіч. З эміграцыйных цаню Наталлю Арсенневу. А з падляшскіх — Ганну Кандрацюк і Міхася Андрасюка

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Апошнім часам чытаю „Залатую кнігу вёскі Кнаразы".

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Ад многіх гадоў вучні падпісваюцца на „Ніву". На ўроках старэйшыя вучні чытаюць артыкулы з „Нівы", малодшыя чытаюць „Зорку", каляруюць маляванкі, рашаюць крыжаванкі, якія ўплываюць на ўзбагачэнне лексічнага слоўніка мовы.

**— Якое паводле Вас самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Мне падабаецца цыкл фэстаў ладжаных Беларускім музеем з цыкла „І там жывуць людзі". Люблю таксама Свята беларускай культуры, якое разам з іншымі настаўніцамі са школы мы арганізавалі нашым вучням.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Заўсёды на калідоры мае вучні вітаюцца па-беларуску. Таксама люблю размаўляць на гаворцы з вучнямі, якія ведаюць і прыгожа размаўляюць па-свойму.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Сёння не памятаю такіх прыкрых успамінаў, іду ўперад, не азіраюся назад і не аддаюся ўспамінам пра тое, што было дрэнна.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Палохае мяне тое, што жыццё так хутка праходзіць.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Сярод маіх вучняў ёсць лекары, інжынеры, настаўнікі і шмат іншых спецыялістаў.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— За дваццаць гадоў маёй настаўніцкай працы я атрымала многа ўзнагарод і падзяк. Шматлікія ўзнагароды дырэктара школы з нагоды Свята настаўніка. Два разы атрымала ўзнагароду бургамістра горада Гайнаўка, узнагароду куратара — медаль Камісіі Нацыянальнай адукацыі. У 2004 годзе я перамагла ў конкурсе „Настаўнік года па беларускай мове" за напісанне праграмы навучання для класаў IV-VI „Ад верасня да жніўня". Атрымала таксама ганаровую грамату Гродзенскага аблвыканкама.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Поспехі вучняў, радасныя ўсмешкі на тварах, падзяка на канец школьнага года, мілыя словы ад бацькоў. Многія мае вучні паступаюць у белліцэй і гэта вельмі мяне цешыць. Яны наведваюць мяне ў школе і апавядаюць пра сябе.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Найбольш цешыць мяне такі ўспамін, калі дзеткі з першага па восьмы клас вучыліся беларускай мове і былі са мной. Тады, калі думаю пра такіх вучняў, адчуваю радасць і думаю, што мне пашанцавала з вучнямі.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— На сцяне вісяць гліняны герб Пагоня. Таксама нашу насценгазету ўпрыгожвае малюнак Пагоні. Колеры і настрой класа папаўняюць беларускія ільняныя ручнікі і макаткі.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Я, як настаўніца беларускай мовы, адчуваю адказнасць за будучыню маладых беларусаў, за фарміраванне іхняй тоеснасці. Аднак будучыня залежыць ад многіх фактараў. Закончу словамі Францішка Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі».

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Надзея на руіны Вавілонскай вежы

Лічыў, што моўны бар'ер з'яўляецца крыніцай канфліктаў паміж людзьмі. Менавіта таму ён стварыў агульную для ўсіх мову. На Падляшшы завяршыліся ХХ Беластоцкія дні Людвіга Заменгофа. Мова якую стварыў Заменгоф, гэта простая граматыка, гукі прыемныя для вуха, але таксама філасофія жыцця. Адзіная міжнацыянальная мова ажыццявілася менавіта тут, на польска-беларускім памежжы.

На працягу трох дзён (13-15.12.2019) у родным горадзе стваральніка мовы эсперанта праходзілі сустрэчы, даклады і канцэрты. Сёлета мінае 160 гадоў з дня нараджэння Людвіга Заменгофа і сотая гадавіна ўзнікнення ў Беластоку вуліцы яго імя. Эсперанта, на думку Заменгофа, павінна было стаць не проста сродкам зносін, але і спосабам распаўсюджвання ідэй — мірнага суіснавання народаў і культур.

**ЛЮДВІГ І ЯГО ЭСПЕРАНТА**

Людвіг Заменхоф нарадзіўся 15 снежня 1859 года ў шматкультурным Беластоку. «Nigdzie tak jak tutaj nie ma się wrażenia, że tłum brudny i lepki mrowi się», — так пісьменніца Марыя Дамброўская апісвала Беласток у навеле «Brudne miasto» (надрукаванай у тыднёвіку для жанчын „Bluszcz" з траўня 1924 г.) пісала: «Tłum uliczny tego starego podlaskiego miasta składa się dziś po wieku okupacji rosyjskiej z różnych mniejszości. Żargon, rosyjski, niemiecki, białoruski i wszystkie akcenty polskiego, od kresowego śpiewania do warszawskiej porywistej mowy, płyną tu razem strugą zgrzytliwą i jaskrawą na kształt jazz-bandu».

Напружанасць і канфлікты, звязаныя з гэтым мультыкультуралізмам, таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў драме «Вавілонская вежа альбо Трагедыя Беластока ў пяці актах», напісанай 10-гадовым Людвігам. Пасля завяршэння вышэйшай адукацыі працаваў ён афтальмолагам у Варшаве. Упэўненасць у тым, што непаразуменні паміж людзьмі паходзяць з моўных бар'ер, яшчэ больш узмацнілася. Ён свабодна размаўляў на шасці мовах, але марыў стварыць тую, якая аб'яднала б усіх людзей. У 1887 годзе быў ім напісаны першы падручнік па вывучэнні эсперанта. Антоні Грабоўскі, інжынер па прафесіі і пісьменнік па захапленні, стаў адным з першых прапагандыстаў новай мовы. Каб даказаць багацце эсперанта, ён пераклаў «Пана Тадэвуша» на эсперанта. Дарэчы, наш нацыянальны эпас быў спачатку перакладзены на эсперанта, толькі пазней на англійскую мову. Такім жа чынам узніклі кітайскія выданні «Фараона» Баляслава Пруса альбо японскія творы нашай Элізы Ажэшкі. Аднак утапічная ўява аднаой мовы для ўсяго свету не здзейснілася. Але прынамсі часткова атрымалася тое, што з'явілася часткай ідэі эсперанта: аб'яднанне людзей.



Фота Паўла Гросі

■ Мураль і памятная дошка пра дом Людвіга Заменгофа побач нашай рэдакцыі



Фота Паўла Гросі





Фота Улі Шубзды

■ Злева: Дарыюш Шада-Бажышкоўскі, Міхаіл Бранштэйн і Пшэмыслаў Вяжбоўскі

— Эсперантысты адкрытыя, яны ствараюць вельмі пазітыўную супольнасць. Дзякуючы гэтай мове можна завязаць небанальныя кантакты, — кажа старшыня Беластоцкага таварыства эсперантыстаў Пшэмыслаў Вяжбоўскі. — Лёгкасць мовы дазваляе размаўляць на розныя тэмы, паглыбляць свае веды. Эсперантысты — людзі розных прафесій, што робіць нашы размовы надзвычай цікавымі.

Сярод эсперантыстаў — адзінаццаць лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі. Св. Ян Павел II як папа рымскі ўключыў эсперанта ў мовы, на якіх ён даваў благаславенства «urbi et orbi», і сам неаднаразова звяртаўся да моладзі на гэтай мове. Св. Ян Павел II таксама ўхваліў рымскі Імшал на мове эсперанта. Міжнародная мова мае таксама патронаў, такіх як св. Максімільян М. Кольбе альбо бл. арцыбіскуп Ежы Матулевіч.

**ПАД ЗЯЛЁНАЙ ЗОРКАЙ**

Беластоцкія святкаванні ХХ Беластоцкіх дзён Людвіга Заменгофа былі трохдзённым святам. Ужо традыцыйна беластачане ўсклалі кветкі ля помніка Л. Заменгофу, служылася імша на мове эсперанта і адбыўся канцэрт, падчас якога можна было пачуць арыю з оперы «Галка» Станіслава Манюшкі на мове эсперанта ў выкананні Фелікса Галецкага, саліста Нацыянальнай оперы.

Таксама сёлета мінае сто гадоў з часу ўзнікнення вуліцы Людвіга Заменгофа ў Беластоку. У 1919 годзе сярод назваў вуліц, якія падкрэслівалі вяртанне Беластока ў Польшчу, апынулася таксама вуліца Заменгофа.

— Гэта паказвае сілу эсперантысцкага асяроддзя Беластока. Нямнога вуліц атрымала назвы асоб, якія не так даўно памерлі, — сказаў Пшэмыслаў Вяжбоўскі.

Другая сусветная вайна моцна памяняла выгляд сучаснай вуліцы Людвіга Заменгофа ў Беластоку. Толькі два будынкі памятаюць часы славутага беластачаніна. Сёння можна тут пабачыць мураль, які прадстаўляе Людвіга Заменгофа са сваімі сябрамі — Якубам Шапірам і Абрагамам Збарам і сучаснымі жыхарамі Беластока. Паводле Пшэмка Вяжбоўскага, гэта быў першы эсперанцкі мураль у свеце. Пры вуліцы Заменгофа працуе рэдакцыя «Нівы», якая таксама апісвала беларускае асяроддзе эсперантыстаў. Гэтай тэмай дэталёва займаўся журналіст Віталь Луба.

Юбілейныя Дні Заменгофа завяршыліся ў сінагозе ў Тыкоціне (філіял Падляшскага музея). Тут прайшоў клезмерскі канцэрт і прамоцыя зборніка паэзіі Мардэхая Геберціга «Adiau, Krakovo!», перакладзены Міхаілам Бранштэйнам — бардам з Расіі.

— Я стараўся перадаць дух жыцця яўрэйскай супольнасці ў Кракаве паміж дзвюма войнамі, — сказаў бард, эсперантыст і перакладчык з Пецярбурга Міхаіл Бранштэйн.

Беластоцкае таварыства эсперантыстаў арганізуе міжнародныя сустрэчы, кангрэсы і канферэнцыі, а таксама дармовыя моўныя курсы.

— Дзякуючы эсперанта я ездзіў па ўсёй Еўропе перш, чым гэта стала такім простым і звычайным! — падкрэсліваў Пшэмэк Вяжбоўскі.

Старшыня Беластоцкага таварыства эсперантыстаў падкрэслівае лёгкасць засваення эсперанта і хуткія вынікі навучання. Ахвотныя прайсці курс пасля другіх, трэціх заняткаў лёгка перакладаюць нескладаны тэкст.

— Простая, лёгкая для вывучэння, прыгожая і лагічная мова, — дадаў Міхаіл Бранштэйн. — Калі б яе ўвялі ва ўсіх краінах, як другую пасля роднай, яна б вельмі палегчыла ўзаемаразуменне паміж людзьмі: і ў тэхнічных пытаннях, і ў навуцы, і міжчалавечых адносінах.

Уршуля ШУБЗДА

# АБ-БА з консулам Літвы

**На гэтую сустрэчу дыскусійны клуб у «Склепе з культурай», якая адбылася ў сераду 11 снежня. Згуртаванне АБ-БА — аб'яднанне бацькоў вывучаючых беларускую мову ў Беластоку, запрасіла пагутарыць аб беларусах і літоўцах — суседзяў блізкіх, але і незнаёмых. У культурны склеп у падвале Пачатковай школы № 4 па вуліцы Чанстахоўскай у Беластоку, дзе вядуцца заняткі па беларускай мове, літаратуры і культуры завітала консул Літвы ў Сейнах Ізольда Брыкаўскене. Вялася размова пра супрацоўніцтва і стварэнне супольных праектаў паміж беларусамі і літоўцамі, якія жывуць на Падляшшы.**



Кажа консул Літвы ў Сейнах Ізольда Брыкаўскене, якая ў дыпламатычнай службе працуе ўжо больш за дваццаць гадоў:

— Файна штосьці зрабіць разам, бо разам заўсёды можна зрабіць больш. У якім кірунку, то гэта залежыць ад фантазіі. Гэта можа быць супольная гісторыя, што вельмі цікава. Можна сарганізаваць сустрэчу, прысвечаную гісторыі, гэта можа быць нейкая культурніцкая падзея.

Раней АБ-БА таксама супрацоўнічала з арганізацыямі літоўскай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Падчас сустрэчы ў дыскусійным клубе прыгадалі праект „Вялікае Княства Літоўскае — наша супольная спадчына", калі беларускія і літоўскія дзеці з Падляшша супольна культурна адукаваліся і выступалі перад шырэйшай публікай.

— Як удалося літоўцам тое, што не ўдалося беларусам? — распытваў вядучы сустрэчу Мікола Ваўранюк. — Збудаваць вельмі салідную дзяржаву, на меру ХХІ стагоддзя?

— Я перш за ўсё не згаджуся з тым, што Літва і Беларусь гэта толькі пагоркі, узлескі, азёры і балоты, — сказала Ізольда Брыкаўскене. — Бо гэтак і ў Фінляндыі. Гэта прыгожыя краіны. У нас больш за тры тысячы азёр.

— Хтосьці калісь напісаў, што дзе прыгожа, там цяжка жывецца.

— Я мела добрыя кантакты з Беларуссю. Падабаецца мне таксама, што вы маеце такія прыязныя кантакты з нашымі літоўцамі на Падляшшы. Спадзяюся, што зможам выдумаць нейкія новыя супольныя праекты.

— Падляшскія беларускія і літоўскі дзеці разам гулялі, вучыліся і выступалі на прамоцыі кнігі пра Вялікае Княства Літоўскае, выдадзенай па ініцыятыве Чэслава Мілаша, Вацлава Вэнцловы і Сакрата Яновіча самаўрадам Падляшскага ваяводства.

— Цяпер Літва і Польшча хутка ідуць уперад, калі ўступілі ў Еўрапейскі Саюз. Нельга так сказаць, што мы вось сталі членам еўрапейскай супольнасці і заўтра наступіць нейкі цуд, а еўра пачнуць расці на кустах. Людзі будуць рабіць усё, і будзе лепш, чым у той Фінляндыі, бо ў нас... не так холадна. І будзе лепш, я ў гэта веру.

Як літоўцы, невялікі народ, выбіўся на незалежнасць на пачатку дваццатых гадоў ХХ стагоддзя. Беларусы, на жаль, у іншым месцы.

— Мы вельмі хацелі быць свабоднымі. Можа, гэта ёсць у нашых генах, гістарычна. Ад дзедаў-прадзедаў гэтыя аповеды пра Вялікае Княства, і пра тое, што мы былі дзяржавай. Найлепшую частку нашага народа Сталін дэпартаваў у Сібір... Дапамагла нам наша дыяспара з Аўстраліі, Нямеччыны, Амерыкі... Памяталі мы таксама тое, якую цану заплацілі мы па вайне, бо хацелі быць незалежнай дзяржавай. Нашы мужчыны пайшлі ў лес, і змагаліся, не з расіянамі, а з камуністычнай сістэмай, з той імперыяй зла. То ўсё склалася ў адно, і выбухнула. Атрымалася досыць мірна, бо мы не з'яўляемся агрэсіўным народам, хаця заплацілі мы сваю цану. У час здарэння 13 студзеня 1991 года, на жаль, загінулі нашы людзі. Яны не мелі зброі, стаялі перад савецкімі танкамі, спяваючы і трымаючыся за рукі. Мы проста былі зніклі з карты свету, былі ўключаны ў СССР.

— Але нават у такіх умовах было чутно ў свеце пра Літву.

— За той час Літва мела свае дыпламатычныя пляцоўкі (у Вашынгтоне, Лондане і Рыме — гэтыя дзяржавы не прызналі акупацыі Літвы СССР). Пан Лазорайціс быў амбасадарам нібы неіснуючай дзяржавы, якая нават выдавала свае літоўскія пашпарты. Мы, літоўцы, можам паміж сабою спрачацца, але мы ўсе вельмі аб'яднаныя перад супольным ворагам калі кепска, мы ўсе станем разам. А калі яшчэ народ узʼяднаны — гэта пры баскетболе, калі іграе наша зборная. Заўзятары верачь, што будзе лепш. У маёй раённай школе, дзе я вучылася, вельмі элітарнай, куды хадзілі дзеці наменклатуршчыкаў, 12 лютага, калі адзначаем Дзень незалежнасці Літвы, усё ж лунаў сцяг вольнай Літвы. За нашу веру ў незалежнасць змагаліся і касцёл, і вёска...

Сярод сяброў беларусаў на сустрэчы паявіліся і літоўцы з Беластока, і члены мяшаных беларуска-літоўскіх сем'яў, сябры са СМІ. Прагучалі пытанні і напаміны пра супольных нашых герояў, як Кастусь Каліноўскі, супольныя гістарычныя сімвалы і мінулае. У мілай міжнароднай кампаніі падзяліліся аплаткай, угасціліся пачастункам. Доўга не зачыняліся дзверы слаўнага склепу з культурай.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Гаспадыні з Маліннік першыя за сталом

Трыццаць два гурткі вясковых гаспадынь з рэгіёна прынялі ўдзел у штогадовым спаборніцтве, арганізаваным Дэпартаментам сельскай гаспадаркі і рыбалоўства Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. Гісторыя, эмоцыі і павага да традыцыі перамаглі ў кулінарным і эстэтычным змаганні за самы прыгожы стол напярэдадні Каляд. Былі прадстаўніцы (і прадстаўнікі) усіх паветаў Падляшскага ваяводства. На першым месцы — ГВГ з Маліннік Арлянскай гміны са стравамі, падрыхтаванымі на Куццю са сваіх камор і кухань, далей — гаспадыні з Сяльца (гміна Боцькі) і «Камёначкі» са Старой Камёнкі (гміна Саколка). Журы вылучыла таксама гурткі з Паканева (Мілейчыцкая гміна) і Пшыставанцаў (гміна Пуньск).

Спадарыня Валянціна Троц з гуртка ў Маліннікаx не хавала сваіх эмоцый, калі атрымала прыз:

— Дзякуй, што заўважылі нас. Тут мы з цёцяй звычайна рыхтуем стравы, такія нашы; тое, што з поля, з агарода, з гаспадаркі — тое і на нашым святочным стале. А на Куццю гэта рэцэпты ад нашых матуль, бабуль, некаторым з іх ужо больш за паўстагоддзя або і больш. Вось варэнне з сушаных груш, адкуль памятаю, такое ў нас рабілі і ставілі на святочны стол.

Таксама хатнія гаспадыні з Сяльца са старшынёй Рады гміны ў Боцьках Малгажатай Юзвяк падкрэслілі:

— Гэта традыцыйныя стравы ў нашых дамах. Напрыклад, жытні кісель быў заўсёды напярэдадні Каляд. Цяпер я яго раблю і ўсім смакуе. Я падаю яго з малінавым сусам або кампотам з сушанай садавіны.

Журы — Веслава Бурнос (член управы Падляшскага ваяводства), праф. Яраслаў Матвеюк (Беластоцкі ўніверсітэт), Марцін Сексцінскі (Агенцтва па перабудове і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі) і Паўліна Макарская (фіналістка праграмы „Hell's Kitchen") ды Івона Кшыжаноўская (Дэпартамент сельскай гаспадаркі і рыбалоўства МУПВ) высока ацаніла культываванне традыцый і павагу да кулінарнай спадчыны. Таму гаспадыні з Маліннік здабылі першае месца (і суму 1400 злотых).

— Сустрэча з вамі была адной з найпрыгажэйшых падзей у маім жыцці, — прызналася перамоцкам усхваляваная Паўліна Макарская з журы. — Падчас размовы з вамі, за вашым сталом, калі вы дзяліліся сваёй гасціннасцю і ведамі, у мяне паявіліся слёзы на вачах.

Жанчыны з Пшыставанцаў (гміна Пуньск) — таксама адзначаны за захаванне сваёй кулінарнай спадчыны. Яны на сваім стале на Куццю паказалі багацце і традыцыі літоўскай кухні.

— У нас ёсць суп, прыгатаваны з адвару бульбы ў лупінках з зёлкамі, які нашы бабулі падавалі на стол, — расказвалі за сваім сталом. — І бульба фаршыраваная, і селядзец з яблыкамі. Ёсць і салодкае пячэнне кучукай (*kūčiukai*), якое найбольш падабаецца дзецям — гэта маленькія шарыкі з цеста з макам. Іх пячэм раней, каб яны застылі, а потым заліваем салодкім макам.

Намеснік маршалка Падляшскага ваяводства Станіслаў Дэрэгайла павіншаваў усіх удзельнікаў спаборніцтваў:

— Вы ўсе перамаглі! Незалежна ад таго, што вы падрыхтавалі і якія месцы ці ўзнагароды вы заваявалі. Нам удалося прынесці на Падляшша дух і смак самага прыгожага свята — Каляд! **(лук)**

## Хто паможа?

Самай старэйшай жыхаркай Маліннік з'яўляецца Надзея Сахарчук. Сяголета 27 верасня цётцы Надзі паступіў дзевяноста сёмы год. У яе два сыны. Абодва пенсіянеры. Старэйшы, Валодзя, праз вуліцу жыве. Матулю ў царкву завязе, але за парадкам на панадворку ды ў агародчыку адна спраўляецца. За апал на зіму таксама клапоціцца. З гаспадаром з Новакорніна дамовілася. Гатовых дроў спагадлівы чалавек падвязе. Яна адно заплаціць. Старэнькая бабулька пад дашок паўкідае ды ў радкі паскладае. Малодшы сын мог бы памагчы, але займаецца іншымі справамі. Часам аднавясковец Сцяпан Міранчук памагае. З цёткай Надзяй мы даўно знаёмы. У шасцідзясятых гадах, як з кінаперасоўкай у сяло заязджалі, пазнаёміліся. Ды і ў „Ніву" неаднойчы пісаў, бо цётка Надзя гэта жывая скарбніца песні. Вядомая яна ў наваколлі. Зараз мы зжыліся з цёткай Надзяй, быццам маці з сынам. У суботу, гэта значыць 14 снежня, па тэлефоне размаўлялі.

— Са здароўем кепска, — скардзілася бабулька. — Ногі адымае, рукі круцяць. А страву зварыць трэба. Няма каму памагчы. Адзінокай у хаце неяк няёмка. Няма з кім словам перакінуцца. Раней песні з касет слухала. Магнітафончык паламаўся, няма каму яно адрамантаваць. Касет шмат маю. Зараз адно Радыё Рацыя слухаю, канцэрт пажаданняў.

Я паабяцаў цётцы Надзі, што за магнітафончык паклапачуся. Сяброў пытаўся, затым свае запасы перакіну. Хацелася б, каб гмінны самаўрад у Орлі крышачку пацікавіўся лёсам цёткі Надзі. Ёсць жа Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі, цэнтр культуры. Ці можна пакінуць на волю лёсу заслужанага дзеяча культуры Арлянскай зямлі?...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Закрылі яшчэ адну краму

Гмінны кааператыў (ГС) у Нараўцы Гайнаўскага павета ліквідуе свае прадуктовыя крамы. Зараз не працуюць яны, між іншым, у Гушчэвіне, Міклашэве, Новым Ляўкове, Скупаве і Тарнопалі. Цяпер закрылі краму ў Лешуках.

Тут не зробяць зараз пакупак жыхары Лешукоў (у гэтай вёсцы пражывае 113 чалавек), Міхнаўкі (49), Слабодкі (24), Пароcлага (12), Церамкоў (9) ды малых пасяленняў Дамбровы, Кардону і Сянкевічаў. За імі трэба ехаць найбліжэй у Старое Ляўкова. Гэта найменш 5-6 кіламетраў. А з Церамкоў куды больш. Для некаторых тутэйшых нематарызаваных жыхароў гэта ўжо далячынь. Так прыходзіцца жыць на вёсцы.

Па ўсім відаць, што нараўчанскі ГС паступова „падае", але яшчэ бароніцца. З пустых будынкаў крамаў прадае стэлажы і вялікія жалезныя краты з акон. Дзвярных клямак пакуль што яшчэ не прадае. Хто можа ведаць, як будзе далей. Можа замкі і клямкі хто купіць. А магчыма і шыльды хто-небудзь купіць на памятку — вось вы пагалядзіце некалі ў нашым сяле, у Лешуках была ж крама. (яц)

## Вясковая святліца запрашае

Святліца ў Семяноўцы Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета запрашае ўсіх ахвотных ад аўторка да суботы, ад гадзіны 13-й, між іншым, моладзь на настольны тэніс і більярд. Зараз у гэтым доме культуры можна навучыцца выконваць ёлачныя аздабленні. Жанчынам прапануюць кулінарныя заняткі (гатаванне і пячэнне), вышыванне ручнікоў або макатак, а таксама ткаць габелены. Хто захоча, будзе мець магчымасць навучыцца вязаць кручком. (яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# з о р к а

для дзяцей і моладзі


# Калядую, калядую

## — носом грошы ўсюды чую...

— Гэты клас непаседлівы, — кажа Іаанна Марко, — іх проста распірае энергія. І гэта, адначасова, вельмі разумныя дзеці.

У трэцім «а» класе, як у футбольнай камандзе, адзінаццаць дзетак. І кожны вучань — асобная, кіпучая планета. У іх свае думкі і пытанні. І галоўнае — яны ўмеюць слухаць іншых. Ды не толькі слухаць!

Вось, Ксеня Швед уразіла кранальным успамінам. Год таму дзяўчынка хадзіла калядаваць. Сабраныя грошы прызначылі на лекаванне хворай сяброўкі з беларускага прадшколля.

— Мы вельмі хацелі, каб Оля паздаравела, — кажа Ксеня, — спявалі і думалі цэлы час пра яе...

У класе ўсе сцішаюцца, падтакваюць Ксені. Ведаюць, — так трэба.

Добры ўчынак — гэта падарунак таксама для сябе самога. Тады адчуваеш сябе важным і патрэбным для іншых дзяцей. Вось, дзякуючы тваёй маленькай прыслузе, хворае дзіця на міг забудзецца пра боль, усміхнецца, павесялее. А можа падмацуецца ў змаганні з хваробай, ды цалкам аздаравее. Каляды — час цудаў. І дзеці пра гэта ведаюць, перажываюць і вераць.

Зараз усе трэцякласнікі рыхтуюцца да Каляд ды развучваюць калядкі. Раней, калі людзі жылі без грошай, калядоўшчыкі зараблялі на свае дробныя выдаткі. Нехта купляў цукеркі, іншы школьныя прылады або любімага звярка. Заўсёды быў нейкі зрух, пачуццё поспеху. Магчыма, з тых часоў засталася такая калядная прымаўка: Колядую, колядую — носом грошы ўсюды чую...

Словы, на радасць класа, прыгадаў хлапчук з перадапошняй парты.

— Кожны раз, калі набліжаюцца Каляды, — паясніў ён, — тата прыгадвае гэтыя словы і мы ўсе смяемся...

Яшчэ большую радасць можа прынесці аднаўленне калядной зоркі. Нашы сябры заўсёды ходзяць калядаваць з каляровай зоркай. А калі тую зорку зрабіў сваімі рукамі дзедка, гэта сямейны скарб! Вядома, каб падзарабіць у час калядавання, трэба прыгожа развучыць калядкі.

— А ведаеце беларускія калядкі?

— Таааааааааааааак! — прагучаў адказ.

Трэцякласнікі выйшлі на сярэдзіну залы і жыва заспявалі нам «Учора з вячора». Ды так мілагучна, ажно вызірнула сонейка з-за набрынялых восеньскім сумам хмарак. І пазначыла светлавымі зайчыкамі шчырыя тварыкі дзяцей...

У класе вялікі энтузіязм для выступленняў. Ужо на пачатку сустрэчы нашы сябры расказалі пра ўдзел у паэтычным «Трохгалоссі». Коля Корх, Гаўрыіл Якімюк і Ігар Бонда ўжо з'ездзілі на «Паэтычнае трохгалоссе» ў Бельск-Падляшскі. Гаварылі беларускія вершы пра рэха, варон і сталовыя прылады для яды.



III «а» клас з настаўніцай Іааннай Марко

Ігар Бонда

Гаўрыіл Якімюк



Мікола Корх

Хлопцы прымуць таксама ўдзел у «Родным слове».

— А за год мы ўжо будзем рыхтавацца да дыктоўкі і прадметнага конкурсу, — дадае спадарыня Іаанна Марко, — і тут напэўна будуць многія лаўрэаты...

Непублічная школа святых Кірылы і Мяфодзія ад гадоў славіцца многімі лаўрэатамі конкурсаў па беларускай мове. Вось у бягучым годзе да чарговага раённага этапу перайшло ажно 12 асоб. Цікавасць да прэстыжных выклікаў у трэцім «а» класе» мы прыкмецілі ўжо з парога. Нашы сябры не толькі разумелі беларускую мову, але ў міг разгадалі загадку (і тут найбольшую кемлівасць і лоўкасць праявіў Гаўрыіл Якімюк). Дзеці талкова адказвалі на пытанні, жартавалі... А тыя, што не паспелі паставіць на ўроку нам пытанне, яшчэ засталіся ў класе, пасля званка...

**Зорка**
фота **Ганны Кандрацюк**

## Верш з лесу

Улез верш у лес.
На вяршок хвоі палез.
Скакаў там па галінах,
быццам цыркавы кот на лінах.

З радасці пра ўсё забыўшы,
па дарозе незаўважна
свае рыфмы згубіўшы.

І калі даскочыў
на найвышэйшую галіну,
то канец вершу
прыйшоў у гэтую хвіліну.

**СТАРЫ ДЗІК**

## УВАГА КОНКУРС! № 51-19

**Дваццаць два чалавекі забіць мяне хочуць; як заб'юць, адзінаццаць радуецца, адзінаццаць сумуюць, а я жывы застаюся.**

Ф........ м..

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 6 студзеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 47: грыб.**

**Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі** Елена Пятроўская, Арон Мічэйка, Грышка Ціхоньчык, Зося Семянюк, Матэвуш Панькоўскі **з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока,** Марта Петручук, Оля Кардаш, Сара Дэрпеньская, Тамаш Ваўранюк **з Нарвы. Віншуем!**

# Ляцяць вершы з Міхалова

Тое што бачым,
пра тое пішам,
як зяркі скачуць,
пра ў лесе цішу,
пра справы ў школе,
пра дзівы дома.
Што ў душу коле,
што нам знаёма.
«Лісянятка пытаецца:
Калі Зіма пачынаецца?»
«Вельмі прыгожы
сёння дзянёк,
Бо сонца схавалася
і маю цянёк...»
А нам «трэба ранкам уставаць,
У школу спяшаць,»
а вось «восень пачынаецца
заўсёды калярова,
лісты падаюць усюды,
нават памылкова...»
А той «самы файны
час дзяцінства уцякае,
што нас чакае,
усё новае,
усё цікавае...»
Алівія, Ананім, Юстынка,
Фрыц, Габрыся, Каралінка,
Кароля, Кветка, Мастак
пішуць не проста так.
Мінімайк, Міў і Мынка,
Оля, Кароля, Саката і Кветка –
пішуць міхалоўскія паэткі,
з Тапалян, з Азяблоў,
з Шымак і Кухмоў.
І Вераніка, і «Вяндліна»
тут, з усёй гміны,
каго сабрала і натхніла
настаўніца роднай мовы Эміля.

Якуб ВАСІЛЬЧЫК
*Нараўка*

## Жыццё

Жыццё чалавека як кветка.
Найперш нараджаецца,
Потым расце,
Вяне,
А на канец памірае.

Эвеліна КАЗЛОЎСКАЯ
*Кабылянка*

## Дзве сястры

У нас дзве сястры, Оля і Аня.
Можна хутка памылку зрабіць,
Каторая дзяўчынка перад табой?
Але па ацэнках іх знойдзеш,
Оля заўсёды толькі шасцёркі мае,
А Аня самыя двойкі збірае.

Спадарыня Эмілія Грыко і яе вучні

# Міфы
## старажытных беларусаў

Сімволіка колераў часта з'яўляецца «мовай» закаханых. Калі даруем блізкай асобе чырвоныя ружы, значыць, мы прызнаемся ёй у каханні і вернасці. Калі ідзем на паховіны развітацца з памерлым, звычайна нясем белыя кветкі. Ніхто не хоча атрымаць жоўтых кветак... Чаму? Бо яны сімвалізуюць расстанне і здраду.

Пра **жоўты** колер нашы продкі думалі неадназначна. Раз спалучалі яго з сонечным святлом і нязменнасцю, іншы раз — з разбурэннем, хваробай і смерцю.

Жоўты лічылі колерам чужых народаў і свету памерлых. Дзеля вясновых памінальных абрадаў пачаткова фарбавалі яйкі на жоўты колер. Іх заносілі на магілы, каб накарміць душы памерлых... Хваробы, пры якіх колер скуры рабіўся жоўтым (напрыклад, жаўтуха), лячылі жоўтымі раслінамі. Таксама хворых на ліхаманку застаўлялі глядзець на жоўтае, паціралі ім шчокі залатой манетай або прыкладалі жоўты ланцужок. Жоўтым прадметам, такім як пярсцёнкі, завушніцы, запінкам, прыпісвалі магічныя якасці. А жоўтую зямлю дык наогул лічылі гаючай.

Жоўты колер часта звязвалі з золатам, верылі ў тое, што жоўтыя расліны могуць дапамагаць у пошуках схаваных і заклятых скарбаў. Найлепшым пуцяводным зеллем лічылі святаяннік, які расцвіў апоўдні на святога Яна. Часта такую засушаную расліну бралі з сабой у далёкую дарогу. Абярэг, верылі, паспрыяе карысным здзелкам у гандлі.

На Падляшшы забаранялі ірваць дзецям жоўтыя кветкі «курынай слепаты». Лічылі, што ад гэтага аслепнуць куры ў гаспадарцы.

Як мы ўжо сказалі, жоўты колер абазначаў здраду, падман, няшчасце. Яго, як агню пазбягалі пры шлюбных рытуалах і прынцыпова ніколі не ўплялалі жоўтых кветак і стужак у шлюбны вянок.

А жоўтая хустка ў сне, верылі старажытныя беларусы, прадказвала расстанне.

(Адрэзак адрэдагаваны паводле кніжкі Алены Коршак *Беларуская міфалогія для дзяцей*).

**(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 51-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 47-2019:**

Міт, песня, ар, кветка, лік, змена, снежань, смятана, Ян, кок, сцэна. Паласа, ясік, як, сто, знак, кмен, вежа, змена, танец, мак, Ірак, Ян, Яна.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі **Паўліна Кулеша, Якуб Галёнка, Тамаш Васілюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Тамаш Ваўранюк, Мая Тапалянская** з Нарвы, **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Нікіта Кумейка, Паша Пахвіцэвіч** з Орлі, **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага, **Януш Чарнецкі, Якуб Карпюк** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Mit / Koń | | Dzika róża | | Ulga | |
| | Grupa | Planeta / Głaz | | Kieszenie / Rano | | | | | | |
| | Wrota / Baran | | | | | | | Jamka | Ceberek | |
| Szczyt / Banan | | | | | | Pióro | | | | |
| Jeleń | | | | | | Dużo / Niewolnik | | | | |
| Ruta | | | | | Ryksza | | | | | |
| | | | | Ganek | | | | | | |
| Kłamstwo | | | Żaba | | | | | As | | |

# «Беларускі абрад» яшчэ на сцэне

XXVI Прэзентацыі абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» два разы праходзілі ў Беластоку і па адным разе ў Бельску-Падляшскім, Дубічах-Царкоўных і Орлі, дзе і завяршылася сёлетняя прэзентацыя абрадаў і тэатралізаваных абрадавых прадстаўленняў. Былі яны ўмела падрыхтаваныя і цікава запрэзентаваныя дзеткамі, моладдзю і старэйшымі акцёрамі. У час няконкурсных аглядаў была нагода пазнаёміцца з прыкладамі нашай багатай спадчыны, якая прэзентавалася на фоне прыгожых сцэнічных афармленняў.



■ З абрадам «Калядаванне» выступілі дашкольнікі з калектыву «Калебка» Прадшколля № 1 у Гайнаўцы

Пабываў я на аглядзе ў Дубічах-Царкоўных, распалажаных непадалёк ад Белавежскай пушчы. Жыхары гэтага ляснога рэгіёна доўга захоўвалі народныя абрады, якія хутчэй сталі занікаць у іншых раёнах Беласточчыны. Гэта тычыцца пушчанскіх і прыпушчанскіх тэрыторый па абодвух баках мяжы, дзе жыхары яшчэ да Другой сусветнай вайны жылі побач сябе, радніліся і сябравалі. З «хрыстком» — дубовай галінкай, сімвалам магутнасці нашай пушчы, калядавалі ў час Хрышчэння Гасподняга ў Арэшкаве яшчэ ў пасляваенны перыяд. Цяпер справу працягваюць члены беларускага народнага калектыву «Арэшкі». Калі зараз менш народных калектываў рыхтуе даўнія абрады да прэзентацыі на сцэне, іх месца сталі займаць дзеткі, якія найчасцей вучацца ў школах і садках беларускай літаратурнай мове. Сёлета яшчэ больш дзетак і моладзі, чым у мінулых гадах, выступіла ў час Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне», арганізаваных у другой палове лістапада Галоўным праўленнем БГКТ разам з мясцовымі асяродкамі культуры. Маладыя асобы, якіх падрыхтавалі настаўніцы беларускай мовы і інструктары, на беларускай літаратурнай мове займальна запрэзентавалі абрады і тэатралізаваныя абрадавыя сцэнкі ў час пяці вечарын. Дарослыя самадзейнікі таксама па-акцёрску паказалі вясковае жыццё ў мінулым. Выступоўцы заяўлялі, што трэба захоўваць ад забыцця старыя абрады і песні, знаёміцца з нашай гісторыяй і шанаваць сваіх герояў.

Канцэртная зала Гміннага асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Дубічах-Царкоўных хутка стала запаўняцца публікай. Першымі адважна і цікава з абрадам «Калядаванне» запрэзентаваліся дашкольнікі калектыву «Калебка» Прадшколля № 1 у Гайнаўцы. Дзетак падрыхтавалі Міраслава Ніканчук, Ала Супрун і Вольга Вілюк. Апранутыя ў прыгожую, стылізаваную на народную, святочную вопратку малечы апрача спявання калядак таксама віталіся, размаўлялі і развітваліся з публікай.

— Мы набралі новых дзетак да калектыву «Калебка» і на пачатак падрыхтавалі абрад «Калядаванне», з якім будзем выступаць таксама пасля Раства Хрыстовага. Калі дзеткі навучацца спяваць калядкі, будуць маглі калядаваць таксама дома, перад бацькамі, — сказала настаўніца Міраслава Ніканчук.

Паглядзець выступленні прыехалі бацькі дашкольнікаў, а нават іх дзядулі і бабулі. Запрэзентаванае гайнаўскімі дзеткамі калядаванне жывое ў нас па сённяшні час. У многіх нашых вёсках калядуюць і славяць Хрыстовае Нараджэнне перш за ўсё дзеткі і моладзь.



■ Калектыў «Званкі» Гайнаўскага дома культуры выступіў з абрадам «Допыты на пяцёрку»

Займальна з абрадам «Допыты на пяцёрку» выступілі вучні гайнаўскіх школ, якія займаюцца ў тэатральна-музычным калектыве «Званкі» Гайнаўскага дома культуры. Падрыхтавала іх інструктар Вера Масайла, якая сцэнарый абраду напісала на падставе здарэнняў, аб якіх расказалі ёй старажылы. Вопратку і сцэнічнае афармленне дапамаглі ёй падрыхтаваць бацькі.

— Выступаючы на сцэне трэба ўмець паказваць свае эмоцыі, перажыванні, смутак, радасць, ці гумар. Мы вучымся гэтаму займаючыся ў калектыве. У час рэпетыцый ёсць час на жарты, але трэба папрацаваць, каб выправіць моўныя памылкі і навучыцца так выступаць, каб паказаць задуманае ў абрадзе, — сказалі члены калектыву «Званкі», якія выступілі ва ўсіх мясцовасцях, дзе праходзілі прэзентацыі абрадавых калектываў.

Некаторыя абрады захаваліся ў частковым выглядзе. Ёсць яшчэ вёскі, дзе моладзь з гумарам праводзіць час у навагоднюю ноч і робіць фокусы. Такі абрад азагалоўлены «Багаты вечар у Мацвеевых» запрэзентаваў калектыў Непублічнай пачатковай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, які падрыхтавала шматгадовая настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Нарве Ніна Абрамюк.

— Дырэктар Кірыла-Мяфодзіеўскай школы Марцін Абійскі запрапанаваў мне весці тэатральны гурток і я пасля роздуму згадзілася. Мы адразу пачалі рыхтавацца да абрадавай сцэнкі «Багаты вечар у Мацвеевых». Працуючы настаўніцай беларускай мовы ў школе ў Нарве, я многа разоў рыхтавала з вучнямі абрадавыя і тэатральныя прадстаўленні. Цяпер я прыняла прапанову прадаўжаць такую актыўнасць у Беластоку, — заявіла Ніна Абрамюк.

Вучні беластоцкай школы з гумарам паказалі як у мінулым у навагоднюю ноч у нашых вёсках рабілі фокусы.

Сёлета калектыў «Малінкі» з Маліннік запрэзентаваў абрад «Перапяліца». Члены «Малінак» яшчэ памятаюць абрад на недажатым збожжы на сваіх палях. Малінніцкія жанчыны і мужчыны заспявалі жніўныя песні, з гумарам вялі дыялог, выконвалі «перапяліцу» і гасцявалі. Кіраўнік калектыву Вера Нічыпарук удакладніла, што члены калектыву стараліся захаваць дэталі абраду, якія памятаюць з дзяцінства. У ліпені абрад «Перапяліца» паказваецца ў нас на палях, на сапраўдным недажатым жыце. Яго часта прэзентуюць таксама «Васілёчкі» ў час «Спасаўскіх запустаў» у Бельску-Падляшскім. Хор «Васілёчкі» вылучыў нават са свайго саставу дзве абрадавыя групы, якія ў час «Беларускага абраду на сцэне» паказваюць асаблівасці жыцця ў мінулым. Аднак у гэтым годзе якраз у той перыяд «Васілёчкі» адзначалі 55-годдзе дзейнасці і таму не падрыхтавалі новай абрадавай пастаноўкі.

Абрад «Вячоркі» калектыў «Рэчанька» з Козлікаў падрыхтаваў пад наглядам Алы Каменскай. У час вячорак спяваліся беларускія песні, вяліся аповеды, людзі жартавалі. Вечарыну ў Дубічах-Царкоўных умела вяла Юліта Сушч. Войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі выказаў задавальненне, што прэзентацыі адбываюцца ў Дубічах, дзе найстарэйшыя жыхары памятаюць многія абрады. Дырэктар Гміннага асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Дубічах-Царкоўных Міраслава Іванюк звярнула ўвагу на зацікаўленасць прэзентацыяй абрадаў мясцовага насельніцтва, якое шматлюдна прыбыло ў асяродак культуры.

— У нас, старэйшых людзей, ажываюць успаміны перыяду моладасці. Важна, што так многа дзетак і моладзі выступае сёння на сцэне і паказваюць, як калісь жылося, — заявілі дубіцкія жанчыны і звярнулі ўвагу на магчымасць знаёміцца з даўнімі традыцыямі малодшаму пакаленню.

— Найстарэйшыя самадзейнікі ведаюць абрады з часоў сваёй моладасці. Выступаючы на дыялектнай мове, цікава паказваюць нашы абрады, а бывае, што дыялогі прыдумваюць на ходу. Здараецца, што ў адной мясцовасці прэзентаваныя імі абрадавыя дыялогі розняцца ад выступу ў іншай мясцовасці. Дзеткі і моладзь найчасцей размаўляюць на беларускай літаратурнай мове, якой вучацца ў школе ці садку. Умела паказваюць яны тэатралізаваныя сцэнкі і карыстаюцца загадзя вывучанымі дыялогамі. Мы рады прэзентацыям у выкананні маладога і старэйшага пакаленняў. У гэтым годзе калектывы, у якіх выступаюць дзеткі і моладзь, састаўляюць больш чым палову выканаўцаў. Займальна на беластоцкім аглядзе з абрадам «Вяселле» выступілі дзеткі разам з бацькамі з Прадшколля № 14 у Беластоку. Будуць яшчэ выступаць вучні Пачатковай школы ў Орлі, а абрад «Масленіца» цікава падрыхтаваў да прэзентацыі калектыў «Асенні ліст» Універсітэта залатога веку ў Бельску-Падляшскім, — сказаў намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Мае ўспаміны
## і тое, што пачуў, бачыў, разумеў...
## і свае погляды, рэфлексіі, высновы

**(ч. 2)**

**ГІСТОРЫЯ ДУБІЧ-ЦАРКОЎНЫХ...**

І я пішу адну праўду! Таму буду пісаць тое, што пачуў. Гэта мой пачатак. Калі я нарадзіўся і дзе, вы ўжо ведаеце. Ад чаго пачаць маю аповесць?

Хіба ад нашай веры і царквы, і тут мне найлепшым дапаможнікам будзе цікавая кніжка — манаграфія нашай пачэснай і прыгожай матушкі Эвы Аўксеціюк, жонкі таксама ўсімі паважанага бацюшкі Славаміра. Кніжка называецца «Дубічы-Царкоўныя ў гісторыі праваслаўнай парафіі». Забыў сказаць, калі рэч ідзе пра гісторыю царквы, дык немагчыма прамінуць і гісторыю паходжання таксама нашай вёскі. А менавіта на 23 старонцы гэтай кніжкі мы знойдзем адказ на гэтае пытанне.

Наш люд паўстаў ад паўночных старон ад племя крывічоў, якія прывандравалі да нас і заснавалі асобны лагер. Месца спадабалася, бо навокал прыгожыя лугі і дубовыя дубровы. Паўстала вёска, якую назвалі Дубічы, а лугі на ўсход ад вёскі назвалі Жарывец, і розныя назвы паляцелі, як у калейдаскопе. Гэта было больш-менш у 1576 годзе. У гэтым часе ўзнікалі і суседнія вёскі, як Чахі-Арлянскія, Тафілаўцы, якія спачатку зваліся Дубічы-Мураваныя, Грабавец, Елянка...

Жыхарам была патрэбна царква на іхнюю карысць і патрэбы веры. Царкву пабудавалі на ўзгорку, каля ўрочышча Бахматы і назвалі яе Петрапаўлаўскай у гонар апосталаў Хрыстовых Пятра і Паўла. Над дарогай-гасцінцам, спалучаючым тракт Бельск — Орля — Камянец — і па сённяшні час гэты гасцінец завуць Камянецкім. Гэтай дарогай людзі, пераважна яўрэі, ехалі са сваім таварам на продаж аж да самога Камянца. Царкву паставілі ў прыгожым і маляўнічым месцы, блізка бурлівай, пакручастай і багатай у рыбу ды ракаў рэчкі Арлянкі. Царкву паставілі так, каб жыхарам Дубіч (так наша вёска тады называлася) Чахоў- Арлянскіх, Грабаўца і іншых было выгадней у яе трапіць і маліцца там Богу. Колькі гадоў гэтая царква існавала, я не ведаю. І яна згарэла, хаця ёсць легенда, што яна па прычыне грахоў парафіян праваліласа пад зямлю. На свята Пятра і Паўла, 12 ліпеня (гэта наша прыхадское свята ў гонар апостальскіх святых і загінуўшай царквы на ўзгорку), кажуць, нібыта ў поўдзень, прыклаўшы вуха да зямлі, пачуеш царкоўныя званы. Памятаю, калі я быў яшчэ дзіцём, я адзін раз, а мо і больш разоў, хадзіў у гэтае месца праверыць пачутую ад людзей легенду. І сапраўды, мне здавалася, што дзесьці глыбока ў зямлі чуваць нейкую дзіўную мелодыю. Ясна, гэта была дзіцячая ілюзія. А і тое, што царква правалілася ў зямлю, гэта старая і многа раз паўтараная людзьмі легенда; бо абы толькі ў старане нейкая царква згарэла, як людзі гэту гісторыю перайначвалі на свой капыл: маўляў, яна не згарэла, а правалілася, але на гэта трэба было часу, каб цёмны народ у гэта паверыў. Ёсць і другая легенда, што калі яна згарэла ў час пажару, ікона Пакроўскай Божай Маці ветрам Божым была перанесена ў канец вёскі Дубічы і там упала, менавіта ў тым месцы, дзе стаіць цяперашняя царква. Забыў яшчэ сказаць, што блізка згарэўшай царквы стаяла і карчма, і там можна было падсілкавацца ды выпіць чарку.

Новую царкву пабудавалі нашы парафіяне ў 1729 годзе і яна перажыла многа бур і навальніц. У свой час была і ўніяцкай, і прастаяла да першых дзён Другой сусветнай вайны, калі гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 года. Можа б яна і ацалела, але ў сярэдзіне купала званіцы засеў савецкі ваенны наглядчык і падаваў сваім даныя аб месцазнаходжанні нямецкіх пазіцый, а каля Дубіч ішоў крывавы бой. Немцы прыкмецілі гэта і ў званіцу жарнулі снарадамі. Царква згарэла. Школа, якая стаяла амаль побач, ацалела.

І цяпер варта некалькі слоў сказаць і пра навуку, паколькі нашы людзі яе жадалі як збаўлення. Першыя элементарныя школы паявіліся ў нас у лістападзе 1884 года. Месціліся яны ў прыватных сялянскіх хатах. І дзеткі ў іх вучыліся, а некаторыя з іх пасля паканчалі і сярэднія школы, якія былі ў бліжэйшых, а нават у далёкіх ад нас гарадах. І мне на памяць прыходзіць верш Янкі Купалы «Мужык», напісаны ў 1905 годзе, які я нават вывучыў на памяць. У ім аўтар рашуча сцвярджае, што ў царскі час беларускі мужык (лічыць — усе) быў цёмны і дурны як абух. Вось некалькі радкоў слыннага верша: «Чытаць, пісаць я не ўмею, Не ходзіць гладка мой язык, Бо толькі вечна ару, сею, — Бо я мужык, дурны мужык». Ці ўсё гэта праўда? Янка Купала вывучыўся грамаце. Такая бяда, а вучыўся і наш мужык. І ад сябе скажу: хто хацеў вучыцца — мог вучыцца, бо царскі ўрад і Сінод 13 чэрвеня 1884 года аб'явіў устаў аб царкоўна-прыхадскім школьніцтве. Такія школы амаль усюды паўставалі і дзеткі вучыліся. І ў нас у Дубічах-Царкоўных такая школа паўстала і неўзабаве быў пабудаваны вялікі будынак новай школы, якую і я закончыў у тым жа доме, бо наша школа перажыла і Першую, і Другую сусветныя войны. І сёння стаіць, як рэдкі музей, вядома, пасля некалькіх грунтоўных рамонтаў. Побач стаіць новая мураваная вялікая школа, дзе грамаце вучацца дзеткі нашай і навакольных вёсак. Толькі бяда — замала дзяцей у нас і трывожна на душы: як доўга будзе існаваць новая школа, калі дзяцей не будзе хапаць...

(працяг будзе)

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Аберагайцеся прайдзісветаў



12 лістапада патэлефанаваў мне дарадчык тэлеаператара Орэндж, які рэкамендаваў пакет паслуг *Love Standard 2/19*. Як тлумачыў суразмоўца, прамацыйны пакет тычыўся дамашняга інтэрнэту, тэлевізійных паслуг, а таксама стацыянарнага тэлефона і мабільніка.

— Абанемент за чатыры паслугі каштуе адно 109 зл. у месяц, — заахвочваў дарадчык, — а кліент пакарыстаецца неабмежаваным лімітам спалучэняў стацыянарнага тэлефона і мабільніка, інтэрнэтам да 10 Мб ды спадарожнікавым тэлебачаннем. Дамова заключаецца на 24 месяцы. У падарунку ад фірмы кліент атрымае тэлевізар 32 цалі за 1 зл. (з пакетам 102 каналаў, у гэтым ліку палова ў высокай выразнасці), дэкодар і мабільнік.

Я першапачаткова скептычна паставіўся да прапановы дарадчыка, але ўзяўшы ў лік чатыры рахункі, за якія штомесяц плаціў больш за сотню злотых, ды дарэмны мабільнік і тэлевізар за залатоўку сказаў падасласць дакументы дамовы для праверкі і подпісу. Кансультант заявіў, што дакументы будуць дастаўлены кур'ерскай поштай, затым будзе даручана пасылка з тэлевізарам. Дакументы падаслалі праз два тыдні, а тэлевізар атрымаў 2 снежня. І вынікла праблема. У пасылцы не хапала дэкодэра і мабільніка. Наконт апошняга я ў дамове прачытаў: «мабільнік Орэндж Ляв № 789270663», а ў пратаколе прыёму: «у рамках выбранай прапановы пастаўляем выбраны мабільнік „SIM"». Я ў гэтай галаваломцы не магу разабрацца, што мне фактычна падаслалі: мабільнік № 789270663 ці „SIM"? Як адной, так і другой рэчы ў пасылцы не было. 5 снежня я патэлефанаваў па інфалініі ў фірму Орэндж і паспрабаваў высветліць справу дэкодэра і мабільніка. Размова з кансультантам доўжылася больш сарака мінут, а рахунак за яе каштаваць мяне будзе 12,50 зл. І чаго я дабіўся?

— Паслугу TV вы заключалі 24 жніўня 2010 года, — паясніў кансультант, — тады вам перадалі дэкодэр. А зараз вы гэту паслугу аднаўляеце, затым павінны пакарыстацца дэкодэрам даўнейшым.

Не памаглі мае тлумачэнні, што ніякага дэкодэра я не атрымаў, таму зараз не магу карыстацца тэлевізарам. Але мая гаворка, гэта агульнавядомая вада на млын (гаворы да гары, а гара гарою). Таксама кансультант не высветліў справы браку ў пасылцы мабільніка.

— Прабачце, мы надта доўга размаўлялі, — пачуў я голас у трубцы. — Мяне чакаюць іншыя кліенты.

— Дык можаце мне назваць сваё прозвішча, — папрасіў я і тут жа дабавіў, — і запіс нашай размовы?

— Маё прозвішча Герард Свянціцкі, а плітку з запісам размовы атрымаеце ў тэрміне трыццаці дзён.

Вось, даражэнькія, як маюцца справы з заключэннем дамовы па тэлефоне. Орэндж прыслаў мне ўжо рахунак на 130 зп. за паслугу, якою не карыстаюся. І што рабіць абдуранаму пенсіянеру? Адно перасцерагчы чытачоў, каб ганялі мяцёлкай назойлівых прайдзісветаў і не заключалі ніякіх дамоў на паслугі па тэлефоне.

**Уладзімір СІДАРУК**

# «Дзеці на Падляшшы не могуць наракаць» (зімой)




«Дзеці на Падляшшы не могуць наракаць», — гэты сказ выклікаў ува мне цікаўнасць. Ён паходзіць з артыкула «5 прычын, для якіх вы павінны наведваць нас зімой. Зіма на Падляшшы». Змешчаны ён у рэгіянальна-турыстычным блогу пра Падляшша «Беласток суб'ектыўна».

І чаму гэта так? Вось далей знаходзім тлумачэнне. «***1. Мы святкуем Каляды і Новы год двойчы!*** *У сувязі з высокім адсоткам праваслаўных вернікаў і вялікай колькасцю змешаных шлюбаў многія школы плануюць дадатковыя выхадныя дні. Чаму? А таму, што праваслаўныя на Падляшшы вядуць сваё рэлігійнае і духоўнае жыццё ў адпаведнасці з юліянскім календаром*».

Гэта першая з пяці прычын, чаму госці павінны прыехаць на Падляшша. Прыцягненнем для патэнцыйнага турыста можа стаць тое, што дзеці не могуць скардзіцца, бо ў іх святы двойчы (часам гэта зусім не так: *«Кожныя некалькі гадоў нашы Вялікадні «сыходзяцца» і адзначаем свята адначасова — тады ў школах вольныя дні толькі адзін раз — часта некаторыя дзеці несуцешаны»*).

Я сам родам з Падляшша і хацеў бы пабачыць, каб два разы адзначалі адно і тое ж свята! Я сам праваслаўны, а мая жонка каталічка. Мы не жывем на Падляшшы, але ў нас тут ёсць сям'я. Раз мая сям'я прыязджае да нас, а потым мы едзем на Падляшша. Я ніколі не ставіўся да гэтага, што мы святкавалі Каляды двойчы. Бог адзін і той жа і не нараджаецца двойчы (і не памірае двойчы). Калі вы няверуючыя, гэта не мае значэння. Такім чынам за жыхарамі гэтай зямлі назіраюць як за паміраючым племем, напрыклад, у Афрыцы. Гледзячы толькі на іх рытуалы, не ўнікаючы ў іх паходжанне і сэнс.

Аднойчы ў 2011 годзе я быў у Малі. Гэта афрыканская краіна, размешчаная ў заходняй частцы кантынента, са сталіцай у Бамако. Я быў у краіне дагонаў. Дагоны, напэўна, адно з самых цікавых плямёнаў ва ўсёй Афрыцы. Яны жывуць побач з разломам Бандыягара ў паўднёва-ўсходняй частцы Малі, уздоўж якога размешчаны іх вёскі. Сістэма іх перакананняў вельмі цікавая і складаная. Яны валодаюць вельмі шырокай касмагоніяй і астранамічнымі ведамі. Дагоны лічаць, што свет жывых і памерлых, людзей і божастваў адзін, а чалавек нараджаецца з двайной душой — жанчынай і мужчынам. Людзі, сыны Амы-Номма, пратаганісты дагонаў, прыбылі на зямлю з планеты Сірыус у Каўчэгу Номма. У вёсцы Кунду, дзе жывуць мае сябры, мой калега пераапрануўся ў казліка-матолка, і мы гулялі з групай шчаслівых дзяцей, напрыклад, у круг, паравоз і іншыя гульні. Адзін з хлопчыкаў дазволіў мне пагуляць са старым, дзіравым і брудным тэнісным мячыкам на шнурку. Другі даў мне старую веласіпедную шыну для катання з палкай. Я не даваў ужо рады гэта зрабіць. Навучанне мяне такім гульням дастаўляла дзецюкам вялікую радасць.

Пісаўшы такім чынам пра жыхароў Падляшша (незалежна ад веравызнання, якое яны вызнаюць — тут яшчэ больш іншых канфесій), мы робім іх «экзатычнымі мясцовымі тубыльцамі». Нейкае дзіўнае племя, якое насяляе гэтыя «казачныя» землі, далёкія ад цывілізацыі (хаця ўсяго ў 220 км ад Варшавы). А зімой *«вядома, лепш за ўсё, калі сопкі снег пакрывае вёскі і гарады — тады Падляшша ператвараецца ў казачную зямлю. Белыя плошчы палёў і лясоў пераплятаюцца з царкоўнымі купаламі і касцёльнымі вежамі, блуканнем дымоў з комінаў невялікіх хацін і статкамі зуброў велічна ходзячымі па палях... У гарадах працягваецца гонка за самыя прыгожыя ёлачныя ўпрыгажэнні, і з-за тэмпературы вы можаце беспакарана наядацца сытымі вяндлінамі ды глытком легендарнай самагонкі»*. Прыгожае бачанне?

Ці гэта бачанне «страчанага раю»? Там, дзе жыхары «беспакарана глытаюць вяндлінкі» і п'юць «легендарны самагон» і ўвесь час маюць душэўны спакой. Ці ёсць яшчэ такія рэгіёны ў Польшчы ці ў Еўропе?

Мы не зразумеем Падляшша, дагонаў і сэнсу асобных сцэн альбо этапаў жыцця. Але ці можа быць інакш, калі мы выраслі ў іншай культуры і глядзім на Падляшша ці Афрыку толькі праз прызму ўласных ідэй, вераванняў і звычак? Мы не заўважаем, што там жывуць звычайныя людзі (хаця, як дагоны, яны могуць прыбыць з космасу). І без гэтага разумення мы будзем пастаянна «шукаць у свеце тое, што вельмі блізка».

А Падляшша будзе проста яшчэ адной «чароўнай зямлёй», дзе мы можам *«зашалець і ўзяць на арэнду халупу дзесьці ў экзатычным трохкутніку Беласток — Сямятычы — Гайнаўка — Саколка.* ***Zdobyć się na*** *сапраўдны кантакт з меншасцямі, праваслаўем ... Паездзіць ад вёскі да вёскі, шпацыраваць, адкрываць царкоўкі, каплічкі, прыдарожныя крыжы, павыглядаць ласёў, а ўвечары зрабіць куліг з вогнішчам і каўбаскамі. Праз некалькі дзён рушыць далей...»*

А мясцовыя жыхары застануцца і будуць культываваць сваё мясцовае павольнае жыццё — *slow life* і жыць у час, які цячэ ў гармоніі з прыродай. А дзеці іх не будуць наракаць. Толькі як доўга?

**Дар'юш ЖУКОЎСКІ**



# http://ragna.by

Прынята лічыць, што мода на вышыванкі і разнастайныя аздабленні з нацыянальным каларытам у Беларусі з'явілася пасля рэвалюцыі 2014 года на Украіне. Аднак гэта не зусім праўда. Сапраўды, тыя падзеі моцна падштурхнулі імкненне людзей да праяўлення нацыянальнай тоеснасці, але не былі першым штуршком.

Калі ўзгадаць нядаўнюю гісторыю пачатку надышоўшага тысячагоддзя, то яна вызначалася, паміж іншым, з'яўленнем разнастайных музычных гуртоў, якія гралі так званую этна-музыку. Яны карысталіся той-сёй папулярнасцю. І гэтая папулярнасць пераходзіла на тыя аксесуары, якімі музыкі карысталіся. Па ўсім відаць, што жаданне набыць нейкую рэч з прэтэнзіяй на нешта этнічнае нарадзіла прапанову вырабу і продажу такой рэчы. Так пачалі ўзнікаць крамы, якія гандлявалі таварамі з этнічным аздабленнем. Лічыцца, што першай з іх была крама „Рагна". Па меншай меры так сцвярджаюць пра сябе яе ўладальнікі на сайце https://ragna.by.

„Наша крама ўпершыню адчыніла дзверы 1 жніўня 2013 года і была першай этнакрамай у Беларусі. Тут прадаюцца рэчы ад лепшых беларускіх майстроў і вытворцаў для ўсіх зацікаўленых тутэйшым этнастылем", — гаворыцца на старонцы „Пра нас".

Паводле пададзенай інфармацыі, „Рагна" з'яўляецца незалежным праектам, які не мае знешняга фінансавання і не атрымлівае грантаў, і зараз у краме працуе ўсяго толькі тры чалавекі. „Але часта ў працэсе рэалізацыі ідэй прымаюць удзел нашы адданыя і таленавітыя сябры з усёй Беларусі. Мы заўжды вельмі зацікаўленыя ў валанцёрскай падтрымцы. Калі Вас цікавіць магчымасць супрацоўніцтва — напішыце нам!", — заклікаюць уладальнікі сайта.

„Мы імкнемся не проста прадаваць рэчы, а шукаем і ствараем сучасныя формы, разуменне этнастылю і беларускай айдэнтыкі. Адна з нашых мэт — забяспечыць прысутнасць сімвалаў і знакаў нашага народу ў жыцці людзей і ў звычайны дзень, і ў свята. Наш асартымент — гэта простыя спажывецкія рэчы, арыгінальныя і ўнікальныя сувеніры і падарункі ў беларускім этнастылі. Кожны тавар мы адбіраем на падставе традыцыйнасці, экалагічнасці і эстэтыкі. Таксама адным з галоўных крытэраў з'яўляецца функцыянальнасць.Не забываем пра традыцыі нашых продкаў і нагадваем пра іх тым, хто забыў", — адзначаецца ў самапрэзентацыі „Рагны".

Калі глядзець па прапанаваных таварах, то яны сапраўды вельмі простыя — кашулі, завушніцы, цацкі, гульні, паштоўкі, магніты, мыла, нататнікі і гэтак далей. То-бок усё тое, што звычайна і пастаянна патрабуецца чалавеку.

Але не толькі продажам спажывецкіх тавараў займаецца „Рагна". На старонцы „Карпаратыўным кліентам" змешчана прапанова адмысловага стварэння карпаратыўных падарункаў і сувеніраў. „Калі Вы ўжо маеце ідэю, ад Вас патрабуецца толькі сфармуляваць задачу, прадаставіць неабходную зыходную інфармацыю і вызначыць тэрмін выканання. А мы знойдзем варыянты магчымага ўвасаблення — падбярэм майстра (майстроў), прадставім для зацвярджэння праект-макет і ўзоры Вашых будучых унікальных падарункаў і сувеніраў, пралічым каштарыс, пракантралюем хаду і якасць выканання працы, даставім гатовыя рэчы", — цвёрда абяцаюць уладальнікі „Рагны".

**Аляксандр ЯКІМЮК**



## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

# 130 гадоў з дня нараджэння Данілы ВАСІЛЕЎСКАГА

Беларускі краязнавец, гісторык, літаратуразнавец Даніла Васілеўскі нарадзіўся 17 снежня 1889 г. у вёсцы Новае Сяло Віцебскага павета (цяпер Шумілінскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Бацька яго, Міна Рыгоравіч, быў чалавекам паважаным, шмат чаго ведаў і ўмеў рабіць, маці была жанчынай набожнай, клапацілася пра дзяцей і малілася за іх.

Пасля заканчэння школы Васілеўскі працягваў вучобу ў Полацкай настаўніцкай семінарыі, дзе ўпершыню пазнаёміўся з беларускай літаратурай і нацыянальна-культурным рухам. Пасля заканчэння семінарыі паступіў у Віцебскі настаўніцкі інстытут і ўжо ў час вучобы пачаў супрацоўнічаць з газетай „Наша ніва", часопісам „Школа і жыццё", віцебскімі выданнямі.

Пасля заканчэння інстытута Васілеўскі працаваў школьным настаўнікам у розных мясцінах губерні, распаўсюджваў беларускую мову і знаёміў моладзь з беларускай літаратурай. У 1919 г. прызначаны інструктарам школ на Віцебшчыне. На гэты час прыпадае і яго праца ў Полацкім таварыстве па вывучэнні мясцовага краю. У 1921 г. Даніла Мінавіч пераехаў у Оршу на пасаду інспектара народнай асветы горада.

Перыяд творчай актыўнасці Данілы Васілеўскага прыпаў на эпоху культурна-нацыянальнага адраджэння ў 1920-я гады. Ён стаў актыўным прыхільнікам палітыкі беларусізацыі і распаўсюджваў яе ідэі на Аршаншчыне. На фоне значных змен, якія адбываліся ў агульнаадукацыйных і вышэйшых школах у кірунку беларусізацыі, артыкулы Данілы Васілеўскага па надзённых пытаннях развіцця школьніцтва, падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў часта з'яўляліся ў друку.

25 красавіка 1926 г. у Доме Саюза працаўнікоў асветы імя Ігнатоўскага праходзіла Аршанская акруговая краязнаўчая канферэнцыя, на якой гаварылася пра адкрыццё музея, знойдзеныя скарбы і выданне першага выпуску зборніка „Аршаншчына". Рэдактарам і асноўным аўтарам зборніка стаў Васілеўскі. Першы выпуск убачыў свет у 1926 г. У другой палове 1920-х гадоў свае артыкулы ён друкаваў у часопісах „Маладняк" і „Наш край", зборніках, газетах. 14 сакавіка 1926 г. у газеце „Советская Белоруссия" з'явілася нататка Васілеўскага пра краязнаўчую працу ў акрузе — „Новыя знаходкі ў Аршаншчыне". А на старонках часопіса „Наш край" (№ 2 за 1927 г. і № 6-7 за 1926 г.) ён расказваў пра археалагічную карту Аршанскай акругі і „Помнікі старасьвеччыны на Аршаншчыне". Таксама Васілеўскі апублікаваў літаратурныя замалёўкі „Ворша зімой" і „Глуш на пераломе", займаўся пытаннямі экскурсійнай справы. Ім былі распрацаваны экскурсіі па ўсёй Аршанскай акрузе, вызначаны культурна-гістарычныя і прамыслова-эканамічныя аб'екты.

Даніла Васілеўскі як актыўны беларускі навуковец не мог не патрапіць пад рэпрэсіі. У 1931 г. яго выключылі з партыі, давялося пакінуць Оршу. Пасля быў Магілёў, праца ў Магілёўскім педагагічным інстытуце. Разам з групай іншых выкладчыкаў і навукоўцаў Васілеўскага звінавацілі ў прыналежнасці „к контрреволюционной нацдемовской контрабанде в процессе преподавания". Следчыя ГПУ не здолелі выбіць з Васілеўскага іроніі. Захаваліся звесткі, што ён прызнаўся ў намеры далучыць Беларусь да Індыі. Магчыма, якраз гэтае „чыстасардэчнае" прызнанне і ўратавала яму жыццё. Зняволенне адбываў у лагерах Пячорскага і Варкуцінскага краёў. Перажыўшы савецкія канцлагеры, хворы Даніла Васілеўскі ўжо не змог вярнуцца ў Беларусь. Памёр ён 28 снежня 1963 года ў Феадосіі (Украіна).

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

*Мікалай Панфілюк*

## Новы год

Вось наступіў 2020 год.
Ён новы, дык лікуй беларускі род,
жыві вечна і не памірай,
жывога Хрыста праслаўляй.

У кожнай нагодзе
ці то ў нястачы,
ці ў цудоўнай прыродзе
няхай аптымізм пераможа.

Дык далоў песімізм!
Жыві ў шчасці і долі,
няхай мінаюць нас
няшчасці і нядолі.

Будзь цвёрды як сталь!
Бо Ты гэтага варт!

Не забудзь сваёй
падляшскай гаворкі,
каб мінуў яе здалёк
лёс горкі.

Ад нас, бацькоў,
гэта многа залежыць
як сваіх дзяцей, унукаў
духова будзем лечыць.

Каб не забылі сваю мову і род,
што мыісцінна беларускі народ.
Дык жыві ў згодзе, мой родны люд,
бо Ты працавіты і плённы Твой труд.

## У Залессі і Смаргоні

22 і 23 лістапада аматарскімастацкікалектыў з Нараўкі пабываў у Беларусі ў Смаргонскім раёне Гродзенскай вобласці. Запрасілі «Нараўчанак» у госці ўладары сельсавета Залессе. Гэты сельсавет адзначаў 80-годдзе свайго існавання. Урачыстасці адбываліся ў колішнім маёнтку Агінскіх, дзе цяпер знаходзіцца музей.

У Залессі з 1802 года жыў і пісаў музычныя творы кампазітар Міхал Клеафас Агінскі (1765-1833). Тут ён стварыў вядомы паланэз ля-мінор, які атрымаў назву «Развітанне з Радзімай». Чароўная мелодыя нарадзілася з душы кампазітара як водгук на беларускія народныя напевы. У Беларусі цяпер да гэтай музыкі напісаны словы і спяваецца песня. «Нараўчанкі» ў Залессі спявалі беларускія і польскія народныя песні, якія спадабаліся залескім гледачам.

На другі дзень у Смаргоні адбываліся абласныя дажынкі. Была халодная ветраная пагода, але ў мясцовы амфітэатр прыехала многа мастацкіх калектываў з Гарадзеншчыны ды іншых беларускіх гарадоў. Пасля поўдня выступілі на сцэне «Нараўчанкі» са сваім рэпертуарам. На жаль, з-за халоднага надвор'я гледачоў было ўжо нямнога.

Разам з калектывам прыехалі ў Беларусь самаўрадаўцы з Нараўкі на чале з войтам гміны Яраславам Галубоўскім і старшынёй Гміннай рады Анатолем Раманчуком. Яны запрасілі ўладароў і артыстаў з Залесся ў госці ў Нараўку.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Адгаданка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | | | | | |
| | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. мусульманская малітва = 19 _ 18 _ 6 _ 9 _ 8 _;
2. лацінаамерыканскі мужык = 15 _ 14 _ 5 _ 4 _;
3. кніга з тлумачэннем сноў = 17 _ 11 _ 12 _ 13 _ 16 _ 10 _;
4. дзяржаўная мова Пакістана = 2 _ 3 _ 1 _ 7 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Авёс, Інд, карысць, леў, Лоеў, ноч, сага, стан, Шаман, штат.

Рашэнне: **Лёс шмат што дае ў карыстанне, нічога ва ўласнасць**.

## Справядлівы гараскоп на 2020 год

**Баран (22.03. — 20.04.)** Многа радасці ад жыцця, рэалізацыя мараў і шматлікія поспехі ў прафесійным плане. Самыя пазітыўныя неспадзяванкі. Многа цікавых дароў ад лёсу. Ідэальна дапасуешся да надыходзячых змен і хутка пакарыстаешся спрыяльнымі ладамі зорак. Больш абавязкаў, але і многа цікавых выклікаў. Кожны высілак будзе ўзнагароджаны. Дома без драм, шчасце, гармонія. Без большых складанасцей у здароўі, інфекцыя злапаная вясной ці восенню можа цягнуцца месяцамі. Не акладвай нічога на пасля. Вучыся новаму. Можа, пачнеш маляваць ці пісаць?

**Бык (21.04. — 21.05.)** Неўзабаве ўбачыш канкрэтныя вынікі сваіх дзеянняў. Усе твае высілкі прынясуць плён, якім будзеш цешыцца з блізкімі. Год ідэальны для кахання, дзеўкі і кавалеры могуць знайсці пару. Вельмі добрыя адносіны са старэйшымі, папраўяцца папсаваныя ў канцы папярэдняга года лады ў пары. Паправіцца стан маёмасці, хаця лёгка не будзе (без шанцаў на нейкі выйгрыш). Добры час на інвестыцыі і доўгатэрміновыя планы. Магчымасць пакінуць кепскія звычкі. Варта трымацца дыеты, крыху фізічна практыкавацца. Здаровая і стабільная сітуацыя ў сям'і дасць табе развінуць крылы. Не бойся змен, не ўсе яны кепскія.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Падумай, чаго хочаш дасягнуць, і паслядоўна кіруйся да мэты, не займайся дробяззю. Сцішыся, без спешкі імкніся да рэалізацыі мэт. Час кахання — ад пачатку мая да канца чэрвеня. У прафесіі на гарызонце магчымасць змены працы, спецыяльнасці ці нават пачатак уласнай дзейнасці (турызм, культура, мастацтва?). Многа сяброўства пройдзе тэст на моц. Здароўе можа папсавацца, зараз пасля новага года можаш збегаць да лекара. Не пераламляйся. Плануй, не плыві на хвалі здарэнняў. Бярыся за справу, не лаві сарака сарок за хвост. Патрэбны самадысцыпліна, праца, таксама над сабой. Можа, трэба будзе праверыць планы, нанова ўстанавіць прыярытэты.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Год будзе спакойны і задавальняючы. Заспакоіш унутраную патрэбу дапамогі іншым. Здамінуюць яго сардэчныя справы. Людзі будуць шукаць у цябе падтрымкі (ніхто пры табе не прападзе!). Зоймешся і сваёй кар'ерай. Зноў прымеш на сябе новыя абавязкі. Некаторыя Ракі цалкам зменяць свой кар'ерны шлях; атракцыйныя прапановы новага занятку вясной або ў палове лета. Паявіцца шанц здабыць больш грошай — грэх ім не пакарыстацца. Паправіцца настрой. Добра было б памяняць дыету, папрактыкавацца фізічна. Энергіі хопіць да канца года! «Калі кахаеш, пусці яго свабодна!» — гэта і пра тваіх дзяцей, якія схочуць паляцець у свет.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Многа сюрпрызаў. Твая сіла волі і энергія дазволяць табе выйсці пераможцам нават з самых нялёгкіх сітуацый. Не плыві ўвесь час супраць плыні. У пачуццёвым жыцці цікавы і ўдалы час. Непаразуменні мусова абмяркоўваць. Самотны Леў будзе атачаны прыхільнікамі, сярод іх можа паявіцца асоба важная ў яго жыцці. На працы захапленне і большая зарплата, хаця хутчэй не будзе дадатковага прыбытку. Некаторыя могуць звярнуць са сваёй сцежкі кар'еры. Можа, пачнуць свой бізнес, але мерайце сілы на намеры. Рацыянальна распараджайся сваёй маёмасцю і часам, каб не фруставацца, выбірай самыя цікавыя прапановы. Пільнуйся ад кантузій і дбай аб свой стрававальны шлях.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Час выходжвання са сваёй зоны камфорту і змагання за ўласную будучыню. Будуць табе спрыяць зоркі і блізкія асобы. Будзеш вельмі актыўны ва ўсіх абшарах жыцця. Не стань ахвярай уласнага перфекцыянізму; будуць людзі, якія табе памогуць. Цудоўны час у каханні — сэрца не раз заб'ецца мацней. Але мусіш перамагчы сваю нясмеласць. Цяжка будзе спалучыць асабістае жыццё з працай — будзе больш абавязкаў. Не бяры сабе зашмат на галаву, працуй у калектыве; не дай сабе адняць заслугі. Большыя хваробы ці кепскі настрой не прадбачваюцца, але занядбоўвай медабследаванняў. Можаш таксама падзейнічаць пры экалогіі, клімаце, дбанні аб справядлівасць — дзеля грамадства, што прынясе табе шмат задавальнення.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Адчуеш прыліў энергіі, ахвоты да дзеяння — будзеш гатовы пераносіць горы! Але будуць стрэсавыя сітуацыі, адымаючыя смеласць. Не страць з вачэй узнагароды, якая цябе чакае! Пад канец года апынешся ў зусім новай сітуацыі, адчуеш спаўненне і задавальненне. Будзеш чараваць! Страла Амура ўсё ж цябе дасягне! Схочацца вырвацца з руціны прабывання сярод тых самых асоб. Канфлікты можна супакоіць дзякуючы размове. Не адкладвай сур'ёзных выдаткаў і не марнуй грошай на непатрэбную драбязу; можа, патрэбна будзе пазыка. Многа нагод, каб падпісаць карысныя дамовы на лепшых умовах; уважліва чытай тое, што падпісваеш. Найлепшы сябар — каляндар, скрупулёзна плануй усе заданні. Можа, выбярэшся ў далёкае падарожжа?

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Многа неспадзяванак. Захавай спакой і памяркоўнасць ва ўсіх галінах жыцця. Год поўны выклікаў. Ці будзеш трактаваць іх як новыя калоды кіданыя табе пад ногі, ці выкарыстаеш іх як шанц на развой і паляпшэнне сітуацыі? Адмоўся ад сумненняў, негатыўных думак, комплексаў. Выкарыстай свае здольнасці і гарт духу. Стома ўвесь год, з-за таго горшы настрой і здароўе. Прымай гэта пад увагу пры планаванні большых мерапрыемстваў. Выразна кажы пра свае пачуцці, шчыра размаўляй. Не бяры на свае плечы зашмат абавязкаў, пільнуй тэрміны і кантракты. Не рызыкуй з новымі мерапрыемствамі. Засяродзься на сумленным выкананні заданняў — гэта прынясе найлепшы плён. Прыліў сродкаў будзе паслядоўны, пры канцы года зрэалізуеш усе адкладзеныя планы. Пашырыш веды, здабудзеш аднадумцаў і ты будзеш вырашаць аб прынцыпах. Не будзь ганарлівым, прымай дапамогу.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Ці не найлепшы год ва ўсім тваім дасюлешнім жыцці! Варта ўкласці больш высілку, каб дасягнуць мэту тваіх мараў. Будуць нагоды для памнажэння маёмасці, рэалізацыі найбольшых прафесійных і прыватных планаў. Сардэчныя справы не будуць цяпер тваім прыярытэтам. Любові ўсяго жыцця прыйдзецца пачакаць! Патрэбныя будуць важныя рашэнні наконт прафесійнага і прыватнага жыцця. Новыя знаёмствы з людзьмі, якім можна давараць і на іх разлічваць. І ты будзь сумленным, лаяльным і ахвотным да дапамогі. Патрэбная штодзённая актыўнасць, адпачынак на ўлонні прыроды. Эмпатыя можа ўратаваць у многіх цяжкіх сітуацыях.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Многа спраў, якія цябе стрэсавалі ў мінулыя гады, адыдзе ў мінулае. Урэшце засяродзішся на сабе! Дзякуючы крэатыўнасці і адвазе пераможаш усе перашкоды на сваёй дарозе. Будзеш кіравацца да жыцця ў спакоі і гармоніі. Год будзе поўны выклікаў у многіх галінах. Асабістае жыццё — у цэнтры, асабліва апошнія месяцы будуць поўныя рамантычных захапленняў, якія могуць кончыцца трывалай і задавальняючай сувяззю. Магчымасць заканчэння доўгай спрэчкі дома. Вельмі многа працы для чаканай матэрыяльнай паправы і павышэння; няма чаго чакаць выйгрышу ці спадчыны, хуткага заробку; выдавай толькі на патрэбнае. Многа астральнай энергіі, але пад канец года болі галавы, пазваночніка, інфекцыі; памаленьку практыкуйся. Дбай аб пячонку і страўнік.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Год поўны прыгод і выклікаў, не будзеш наракаць на нуду! Многа будзе адбывацца, мала што можна прадбачыць ці запланаваць. Можаш змяніць жыццё як хочаш дзеля будавання ўласнай будучыні. Вельмі горача ў любоўным плане. Старыя пары перажывуць росквіт. Самотныя маюць вялікія шанцы, каб знайсці сваю палавінку — будуць прыцягваць сапраўды цікавых людзей. Цвёрдыя сінглы можа ў канцы года вырашаць пра жыццё ў пары. Зоркі спрыяюць Вадалеям, якія мараць пра павелічэнне сям'і. Ужо пачатак года паспяховы ў фінансавым плане. Вырасце стан твайго рахунку! Шукаючы працу знойдуць яе праз кантакты. На жаль, на канец года вялікая стома з-за лішку работы. Свет стаіць перад табой адкрыты — жменямі чэрпай час дадзены лёсам! Але нічога не прыходзіць без высілку. Будуць перашкоды і пагрозы, але справішся. Нічога не рабі супраць сябе!

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Калі прыкладзешся і выканаеш сваю місію, маеш шанц зайсці далёка і дасягнуць тое, аб чым марыш. Слухай свайго ўнутранага голасу. Асаблівы год калі гаворка пра духоўнае жыццё. Чакаюць цябе пераацэнкі ў жыцці, перамога над блакадамі. Рэляцыі з блізкімі лепшыя чым раней. Мусіш узмацніць пачуццё сваёй вартасці, і на тым будаваць партнёрскую сувязь. Кампанейскае жыццё не вельмі багатае. Больш часу правядзеш з блізкімі. Вельмі важная праца і кар'ера, выкарыстаеш у гэтым плане ўсе свае перавагі, шукаючы новы занятак ці атрымаўшы павышэнне. Найлепшыя вынікі ў калектыўнай працы. Не купляй нічога пад уплывам імпульсу; нават найменшыя выдаткі плануй сёлета дакладна. Год карысны для Рыб, якія адважацца на радыкальныя змены ў жыцці і ўсё паставяць на адну карту.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 10 000 egz.

# Większewicy і героі

**11 снежня ў беластоцкім Цэнтры праваслаўнай культуры адбылася сустрэча са старшынёй Беларускага гістарычнага таварыства прафесарам Алегам Латышонкам, прысвечаная спрэчнаму герою пасляваеннага польскага падполля на Беласточчыне Зыгмунту Шэндзеляжу „Лупашку”.**

Зыгмунт Шэндзеляж, пс. „Лупашка” быў даваенным польскім афіцэрам. За ўдзел у абаронча вайне 1939 года быў адзначаны крыжам Virtuti Militari. Уцёк з нямецкага палону, дабраўся ў Вільню, уключыўся ў падполле, дзе займаўся разведкай. У 1943 годзе быў дэлегаваны на камандзіра першага падпольнага атрада АК на Віленшчыне, аднак дАручаны яму атрад быў да таго часу разбіты савецкімі партызанамі. Шэндзеляж сабраў недабіткаў і сарганізаваны ім атрад прыняў назву 5 Віленскай брыгады АК. Брыгада дзейнічала на поўнач ад Вільні і вяла бai з немцамі, літоўцамі і савецкімі партызанамі. 20 чэрвеня 1944 года літоўскі паліцэйскі атрад замардаваў у мясцовасці Вінцішкі 39 цывільных асоб, у тым ліку большасць жанчын і дзяцей. Была гэта помста за забіццё некалькіх паліцыянтаў партызанамі Лупашкі. Той, у адплату выслаў на Ковенскую Літву, у ваколіцу Дубінак атрад, які здзейсніў помсту на сем'ях літоўскіх паліцыянтаў, але не тых, якія дапусціліся злачынства ў Вінцішках; людзі Лупашкі забілі прынамсі 68 асоб, тры чвэрці былі гэта жанчыны і дзеці з сем'яў паліцыянтаў, чыноўнікаў і асаднікаў. Шэндзеляж паступіў так, хаця камандзір акругі Кшыжаноўскі, псеўданім „Вільк”, забараняў адплаты на цывільным насельніцтве. Калі атрады віленскай акругі АК рыхтаваліся да аперацыі „Вострая брама” дзеля вызвалення Вільні з-пад нямецкай акупацыі, „Вільк” назначыў Лупашку камандзірам баявой групоўкі з 4 і 5 віленскіх брыгад, якая мела атакаваць горад. Шэндзеляж не ставіўся са сваёй брыгадай да бою. Апраўдваўся тым, што раней атрымаў абяцанне ад „Вілька” адводу ягонага атрада на захад, бо змагаўся супраць савецкіх партызан і прыход саветаў пагражаў яму смерцю. За невыкананне загаду Шэндзеляж меў быць пазбаўлены камандавання і трапіць пад палявы суд. Аднак Кшыжаноўскі разам са штабам быў арыштаваны саветамі, а ягоныя жаўнеры інтэрнаваныя і ўключаныя ў рады 1 арміі Войска Польскага або вывезены ў лагер у Калузе. У сувязі з тым апалагеты Лупашкі сцвярджаюць, што меў ён рацыю адыходзячы ад баёў за Вільню. Усяк можна ацэньваць рашэнне камандавання Віленскай акругі АК змагацца за горад у такіх абставінах, усё ж такі Лупашка не выканаў загаду, чым істотна аслабіў атрады АК, якія змагаліся за Вільню. Да таго ж зусім не ўратаваў сваёй брыгады перад лёсам тых атрадаў, якія выканалі свой жаўнерскі абавязак. Лупашка мусіў расфармаваць сваю 5 брыгаду ў гродзенскіх лясах; большая яе частка трапіла ў рукі саветаў і папала ў Калугу разам са згаданымі ранней жаўнерамі. Гэта дазваляе меркаваць, што рашэнне Лупашкі адступіць ад Вільні паслужыла галоўным чынам захаванню ягонага ўласнага жыцця. У верасні 1944 года Лупашка з рэшткамі сваёй брыгады падпарадкаваўся камендатну беластоцкагай акругі АК падпалкоўніку Лінярскаму пс. „Здзіслаў”. Той загадаў Лупашку перайсці ў Белавежскую пушчу і арганізаваць кадравы атрад з рэшткаў віленскіх атрадаў АК. Восенню прабываў у Свіслацкай пушчы ў раёне Поразава. У лістападзе перайшоў лінію Керзана каля Мастаўлян і апынуўся ў раёне дзеяння акругі АК Бельск-Падляшскі. У студзені-лютым 1945 года „Здзіслаў” назначае Лупашку камандзірам беластоцкай групоўкі АК, адмаўляючы расфармаванне АК згодна загаду кіраўніцтва. Намеснікам Лупашкі стаў падпаручнік Лех Бэйнар, пс. „Навіна”, які пазней стане выдатным гістарычным публіцыстам, карыстаючымся літаратурным псеўданімам Павел Ясеніца. У пачатку красавіка 1945 года адбылася мабілізацыя брыгады ў ваколіцах вёскі Алексін у цяперашняй Бранськай гміне. Атрад са звыш трыццаці партызан падзелены быў на два швадроны. Далей брыгада рушыла ў напрамку Белавежскай пушчы. У час маршу Лупашка пасылаў патрулі, якія ліквідавалі канфідэнтаў паказаных камандаваннем акругі. Першая такая акцыя выканана была каля вёскі Гарноўшчына, дзе быў расстраляны член КПЗБ Ціхан Раманюк, ранейшы супрацоўнік НКВД. Далей тры патрулі былі скіраваны ў раён вёсак Клюковічы, Такары, Сутна і Нявіраў. У часе акцыі зліквідаваных было сем асоб, указаных вайсковым спецсудом беластоцкай акругі пад закідам супрацоўніцтва з НКВД і УБП. Пераляканыя жыхары Такароў уцяклі на савецкі бок; пасля на польскі бок вярнуліся толькі чатыры сям'і. Неўзабаве такую ж акцыю партызаны правялі ў Вітаве, дзе зліквідавалі дзве асобы. Раней атрады сышліся між Гайнаўкай і Нараўкай і авалодалі Нараўкай, выконваючы чатыры смяротныя прысуды на асобах паказаных вайсковым спецсудом, у іх ліку быў загадчык мясцовай школы Аляксандр Валкавыцкі. Закід быў такі, што траіх належалі ў часе вайны да Беларускага камітэта, вялі варожую Польшчы дзейнасць і выдалі ў рукі гестапа мацеру Інкі. Затое памяць пра Валкавыцкага ганьбавана была так доўга, што знесена яго імя са школы. Лічылі яго савецкім канфідэнтам, які выдаў Інку. На абвінавачанне ў супрацоўніцтве Валкавыцкага з саветамі ІНП не знайшоў ніякіх доказаў. Не мог ён таксама выдаць Інкі бо быў замардаваны раней, чым Седзікуўна стала Інкай; два месяцы пазней. Шмат гадоў намагаліся даказаць Валкавыцкаму саўдзел у выданні маці Інкі ў лістападзе 1942 года, але і гэта аказалася няпраўдай. Сапраўднай прычынай замардавання Аляксандра Валкавыцкага было тое, што, нягледзячы на адкрытыя пагрозы, не ліквідаваў навучання беларускай мове ў загадванай ім школе ў Нараўцы. У маі адзін з атрадаў спаліў Вілюкі і Доўгі Брод за надумлівы абстрэл атрада з боку перш названай вёскі; у сапраўднасці маладыя жыхары вёскі стралялі для забавы. Застрэлілі Васіля Германюка, які нічога супольнага з савецкімі сімпатыямі не меў; тут меў быць пакараны Уладзімір Германюк з Доўгага Броду, які сапраўды быў савецкім супрацоўнікам — вырашыла супадзенне прозвішча. Згарэла амаль уся вёска. У палове мая каля вёскі Патока адзін з атрадаў наткнуўся на апразвіцыйны атрад КБВ і міліцыі. Жаўнеры падполля забілі чатырох жыхароў Патокі, а пазней, у выніку помсты за вайсковую авіятаку іх сядзібы ў Геранімове, падпалілі Патоку; у выніку пажару згарэла тройка дзяцей і адзін дарослы. Пасля гэтага шмат сем'яў назаўсёды пакінула Патоку, выязджаючы ў СССР. У час свайго дзейнічання на Беласточчыне брыгада Лупашкі правяла каля васьмідзесяці баявых акцый, пяць большых і шаснаццаць меншых баёў, шаснаццаць засадак, разбіла адзінаццаць пастарункаў міліцыі, два пастарункі Службы аховы чыгункі, тры савецкія пастарункі і два пастарункі Людовага Войска Польскага, выканала каля шасцідзесяці смяротных прысудаў на канфідэнтах УБП і НКВД ды некалькі прысудаў за бандытызм. З рук жаўнераў Лупашкі загінула каля ста дваццаці савецкіх салдат і афіцэраў, звыш дзясятка працаўнікоў УБП, шмат міліцыянераў ды трыццаць трох жаўнераў КБВ і ЛВП. Разброеных было каля двухсот жаўнераў ЛВП, некалькі дзясяткаў жаўнераў Чырвонай Арміі і некалькі дзясяткаў міліцыянераў. Дазваляе гэта лічыць 5 віленскую брагіду АК найбольш паспяховым падпольным атрадам на Беласточчыне і адным з найлепшых атрадаў усяго польскага антыкамуністычнага падполля. 30 чэрвеня 1948 года, пасля пераходу на цывільны лад жыцця, Лупашка быў арыштаваны. Восенню 1950 года адбыўся працэс членаў збройнага падполля; Шэндзеляж не адмаўляўся ад збройнага змагання ў структурах антыкамуністычнага падполля, не прасіў змілавання, 8 лютага 1951 года быў расстраляны ў Варшаве на „лончы”. У 1993 годзе вайсковы суд рэабілітаваў яго. Сейм РП у 2006 годзе прызнаў яго сімвалам змагання антыкамуністычнага падполля. 15 сакавіка 2015 года полк у Лідзбарку-Вармінскім атрымаў ягонае імя. У красавіку 2018 года адбылося яго ўрачыстае перапахаванне на Павонзках з удзелам Прэзідэнта РП Анджэя Дуды.



Не ўсюды яго, аднак, безумоўна шануюць. Праблема ў тым, што Лупашка адказны за ваеннае злачынства на мірным насельніцтве ў Ковенскай Літве, у Дубінках, у выніку якога загінула прынамсі 68 цывільных асоб. Паколькі Лупашкі не было на месцы злачынства, ягоныя апалагеты цвердзяць, што цывільныя жыхары загінулі ў выніку перавышэння яго загадаў. Аднак атрад Лупашкі быў вядомы са строгай у ім дысцыпліны. Можна меркаваць, што рашэнне аб акцыі прыняў сам Лупашка, паводле нарыхтаванага раней спіска. Але не за змаганне на Віленшчыне стаў ён такім цяпер слаўным. З'яўляецца ён сімвалам выклятых жаўнераў. Дзеянні Лупашкі на нашай тэрыторыі не мелі характару ваенных злачынстваў, ён прымяняў тэрор у адносінах да цывільнага насельніцтва селектыўна — за супрацоўніцтва з органамі бяспекі ці прыналежнасць да ППР; не абышлося пры гэтым без забойстваў зусім нявінных асоб. Спальванне вёсак Вілюкі і Патока было брутальным дзеяннем, але не мэтанакіраваным забіваннем, смяротныя ахвяры былі выпадковыя; да таго ж тут камандаваў не сам Лупашка, але яго намеснік Блажэевіч. Калі гаварыць пра названне вуліцы ў Беластоку імем Лупашкі, то гэта не справа беларуска-польскіх ці літоўска-польскіх адносін, толькі справа разумення дэмакратыі ў нашай дзяржаве: калі маю большасць, то не мушу лічыцца з меншасцю ў любой справе. У гэтым выпадку маем дачыненне з грэбаваннем адчуванняў меншасці.



Усе гэтыя цяперашнія гонары з'яўляюцца вынікам таго, што прынята такую ўяву гісторыі Польшчы і гістарычнай нарацыі ў Польшчы. Калі гаварыць пра змаганне Лупашкі з немцамі, то ён змагаўся, але пасля то немцы не хацелі з ім змагацца, калі яго злавілі, запрапанавалі супрацоўніцтва і выпусцілі. Гэта сакрэт палішынеля ў Польшчы. Затое вядома, што навагрудскае камандаванне АК супрацоўнічала з немцамі супраць саветаў. А пра Лупашку можна сказаць, што віленскае згуртаванне АК было створана дзеля змагання за Вільню, а ён у тым змаганні не прыняў удзелу.

Была мова таксама, з удзелам публікі, пра ўдзел праваслаўных у польскіх падпольных групоўках. І адказ, што калі не непасрэдна ваявалі, то было шмат інфарматараў, якія інфармавалі пра суседзяў, незалежна ад іх грамадскай прыналежнасці.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 51